Ба 47 324

А. ФЕДАСЕНКА

# ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

ПЕРШАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА
КНІГА ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1925

Б2 47324

А. ФЕДАСЕНКА

# ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА

## ПЕРШАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА КНІГА ДЛЯ ЧЫТАНЬНЯ

Б А 47324
2031
Вол. еддзел 1924 г.

Навукова - Мэтодолёгічным Комітэтам Нар. Кам. Асьветы Беларусі **ЎХВАЛЕНА** для першага году навучаньня ў школах соц. выхаваньня.

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1925



# НАСТАЎНІКУ.

Кніга „Чырвоная Зьмена“ зьяўляецца працягам лемантара пад тэй-жа назваю. Затым пачынаецца яна проста з другога паўгодзьдзя з комплексаў—падрахунак перажываньняў дзяцей у час перапынку і організацыя заняткаў.

Матэрыял падобран і разьмяркован па комплексах ГУС'аўскай програмы для першага году навучаньня.

Такое разьмеркаваньне ні ў якім разе не азначае, што настаўнік павінен пераапрацоўваць матэрыял у такім-жа самым парадку. ГУС'аўскія програмы—гібкія. Правядзеньне іх у жыцьцё залежыць ад умоў школы. Зразумела, што скарыстоўваць матэрыял трэба ў тым парадку, у якім школа пасвойму пераапрацоўвае комплексы і іх тэмы. Гэта асабліва трэба падкрэсьліць, інакш праца па комплекснай сыстэме заменіцца вывучэньнем кніжкі, якое можа не адпавядаць наўкольнаму жыцьцю грамады й прыроды.

Матэрыял падобран на падставе 2-гадовай працы з 8-9-годкамі. Увесь ён праверан на дзецях, а частка матэрыялу напісана самімі дзяцьмі. Маючы на ўвазе, што настаўніку прыходзіцца працаваць з некалькімі групамі адначасна, у кніжку ўведзен інструкцыйны матэрыял: пытаньні, пляны назіраньняў і пляны працы для самастойных заняткаў дзяцей. Гэты інструкцыйны матэрыял паказвае кірунак дасьледчай і працоўнай дзейнасьці дзяцей. **На кніжку трэба глядзець больш, як на рабочую кніжку, чым як на чытанку.**

Аўтар імкнуўся пранізаць усю кніжку ідэаламі юнага ленінца—чырвонай зоркі і піонэра. Больш на гэтым прышлося спыняцца пры пераапрацоўцы рэволюцыйных сьвят, якія зьяўляюцца парогамі і ў піонэрскай працы.

Матэрыял гэты зьмешчан у чытанцы з мэтай накіраваць думкі дзяцей да дзіцячай організацыі і да ідэалаў маладых ленінцаў.

Аўтар таксама імкнуўся падабраць матэрыял, які малюе грамадзкасьць дзяцей, іх радасны настрой, і захаваць мастацкасьць

20/III 1925 г.

# I. ШКОЛА. ЗІМА.




## У школу.

Клумак з кнігамі пад пахай;
Думак поўна галава—
Так у школу даўным шляхам
Сыпле сельская дзятва.

## У школу.

Сонейка зірнула ў мёрзлае акно, іскрамі зазьзяла дзіўна так яно.

Рана ўстаў з пасьцелькі хлопчык Васілёк, і ў акно убачыў сьветленькі дзянёк.

Сёньня дзень вясёлы, зьзяе яснатой: добра бегчы ў школу дзеткам грамадой.

За акном, як срэбра, скрозь бялеўся сьнег. Хлопчык хутка ў школу з сябрамі пабег.

---

**Пытаньні:** Як вы зьбіраліся ў школу пасьля перапынку ў занятках?

Што вы любілі рабіць у час перапынку?

Прынясеце вашы вырабы ў школу.

## Вершык для гульні.

Раз, два—булава;
Тры, чатыры—прычапілі;
Пяць, шэсьць—кашу есьць;
Сем, восем—сена косім;
Дзевяць, дзесяць—торбу вешаць.

---

У якія гульні вы гулялі з таварышамі ў час перапынку?



## Зімовыя забавы.

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому—
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому.
—Мамачка, галубка!..
Просіць ён так міла:
—Можа-б ты на рэчку
Пагуляць пусьціла?
Я ня буду доўга—
Зараз-жа вярнуся;
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся!

—Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся,
Ды глядзі ў балонку,
Сынку, не ўваліся!

---

Нарысуй свае зімовыя забавы.

## Наша кляса.

Наша кляса невялікая. У ёй пяць вокан. З вокан бачна вёску. У нас дваццаць адна парта—адзінаццаць у нашай групе і дзесяць у другой. Парты ёсьць і новыя і старыя.

На сьценках у нас многа нашых малюнкаў, плякаты аб чыстаце, каляндар пагоды, аркуш, дзе мы запісваемся, як прыходзім у школу, і куток Леніна; яшчэ вісяць портрэты таварыша Чарвякова, Ігнатоўскага і Калініна.

На вокнах стаяць скрыначкі з кветкамі, якія мы самі пасадзілі і самі даглядаем.

Нашы работы, сшыткі і кніжкі ляжаць у шафе. Перад намі вісіць дошка, а на палічцы ляжыць сьцірка і мел. Калі мы прыбіраем нашу клясу, у нас становіцца прыгожа.

---

Апішэце і вы сваю клясу.



## Наш сход.

Сёньня ў нас быў сход. Разглядалі пытаньне, як нам наладзіць свае занияткі. Марыля сказала, што хлопцы мажуцца мелам. Янка дадаў, што абліваюцца вадою і на пераменках перашкаджаюць чытаць. Мы ўхвалілі:

1. Ня мазацца мелам.
2. Не абліваццa вадою.
3. Не перашкаджаць таварышам. Гэтыя правілы напісалі і павесілі на сьценцы.

Мы абралі новую комісію парадку: Надзею, Сяргея і Ніну.

**Пытаньні:** Ці ёсьць у вас комісія парадку?
Што яна робіць?
Што вам перашкаджае ў занятках?
Што вы робіце з тымі, хто вам перашкаджае чытаць альбо гуляць?

## Дружна з ахвотай.

Дружна з ахвотай,
Гэй, за работу,
Брацьця, скарэй!
З песьняю зычнай
Ў працы прывычнай
Будзе спарней.
Гора з нядоляй
Ня знойдуць патолі
Больш сярод нас.
Весела й хутка,
Мінютка ў мінютку
Сойдзе нам час.
У стуку і груку
Забудзем мы муку
Працы сваёй.
Шчыра і сьмела
Гайда за дзела
Цеснай сям'ёй!

---

Які плян заняткаў вы самі злажылі?

## Прыказкі пра навучаньне.

1. За вучонага двух нявучоных даюць— і то не бяруць.

2. Чаму навучышся ў маладосьці—пад старасьць прыгадзіцца.

3. Навука дае чалавеку розум.

4. Хто што ўмее, за плячамі ня носіць.
5. Што жывем, то вучымся.
6. Хто пытае, той ня блудзіць.

## Загадкі.

1. Без языка, а гаворыць.
2. Белая ральля, чорнае насеньне, хто ўмее—пасее, хто знае—адгадае.

## Выціралкі для пер'яў.

Выражце з якой хочаце матэрыі дзесяць лісткоў па такой форме:




Лісткі злажэце ў дзьве столкі, абшыйце, як пятлічкі. У вас будзе пяць лісткоў у дзьве столкі. Сшыйце іх разам у месцы, дзе паказан крыжык. Выражце два невялічкія

Разгадкі: 1) кніга; 2) ліст.

кругі і прышыйце іх пасярэдзіне сшытых лісткоў з абодвух бакоў. Вось і ўсё. Выціралкамі выцірайце пер'і пасьля пісаньня. Яны ня будуць псавацца.

## Наша бібліотэка.

Раней у нас бібліотэкі ня было. Ня было чаго чытаць. Былі мы ў піонэраў. А ў іх ёсьць бібліотэка. Мы запыталіся, скуль у іх бібліотэка. Нам адказалі, што самі піонэры прынесьлі па кніжцы, хто што мог, і стала многа кніг.

Так і мы зрабілі. Прынесьлі самі з дому 15 кніжак, і настаўнік даў 12. Кнігі мы перапісалі ў асобны сшытак. Каму даем кнігу—запісваем, каб ня згубілася. Цяпер у нас ёсьць што чытаць.

Бібліотэчная комісія: Янка Капаевіч, Алесь і Кацярына.

---

Ці ёсьць у вас бібліотэка? Адкуль яна ў вас?

## Санітары.

Мы—Юрка, Марыся і Вера—санітары. Мы прыходзім у школу раней за ўсіх. Мы глядзім, ці чыста ў нас у клясе. Перад пачаткам за-

няткаў, аглядваем у ўсіх дзяцей рукі, вушы і шыю—ці чыстыя. У каго брудныя, гаворым, каб памыўся. На пераменках мы сачым, каб была адчынена фортка. Адчыняць фортку мы не забываем, бо каля вакна вісіць плякат: „Адчыняйце часьцей вокны“. Санітары: Юрка, Марыся і Вера.

---

Што ў вас робяць санітары?

## Хаўрусам.

Надумаліся дзеці, каб палуднаваць у школе ўсім разам, хаўрусам. Згаварыліся. Усякі прынёс з дому: хто бульбы, хто круп, гароху. І пачалі сабе варыць адну страву на ўсіх.

Толькі Сымонка Васілёў нічога ня прынёс. Дзе-ж там: у яго і ў хаце няма чаго есьці. Уперад, бывала, неяк пажывіцца каля таварышаў. А цяпер, як паселі ўсе дзеці, такія вясёлыя ды радыя, каля вялізнае міскі, Сымонка адышоў у куток. Успомніў пра яго Пётра. „Палавіну свае часткі я зьеў, а другую няхай зьесьць Сымонка“. І аддаў яму сваю лыжку.

На другі дзень самы старэйшы вучань кажа: „Чаму гэта адзін Пётра мае харчаваць Сымонку? Памойму, хай Сымон ёсьць проста

з міскі разам з усімі. Усім будзе даволі. Так усе і згадзіліся. Давялося толькі Сымонку сабе прынесьці лыжку.

---

Ці дапамагаеце вы сваім таварышам?

**Малады ленінец дзеліцца са сваімі таварышамі ўсім, што мае і дапамагае, калі ім цяжка.**

## У школу па чарзе.

У ваднэй вёсцы жылі два браты-сіроткі. Аднаму з іх было дзесяць год, а другому— адзінаццаць. Каб зарабіць сабе кавалак хлеба, яны рабілі скрыначкі да сярнічак. Абодвум вельмі хацелася вучыцца чытаць. У будні дзень ня было калі дзецям хадзіць у школу: яны працавалі дома, а ў нядзелю яны маглі вучыцца. Вось ім пашчасьціла: узімку за тры вярсты ад вёскі адчынілі школу, у каторай вучылі па нядзелях. Але вось бяда: па сьмерці бацькі ў іх у абодвух астаўся толькі адзін кажушок, а зіма была сьцюдзёная, з мяцеліцамі. Нельга было ім абодвум хадзіць у школу.

Дык вось што яны прыдумалі. Яны апраналі кажушок па чарзе: як адзін брат ішоў

у школу, другі аставаўся дома. Аднойчы вучыцель папытаўся малодшага хлопчыка: „Дзе-ж твой брат? Чаму ён ня прышоў разам з табою?“

Хлопчык адказаў: „У нас толькі адзін кажушок, і мы апранаем яго па чарзе; сягоньня быў мой чарод ісьці ў школу. Як я вярнуся дамоў, я раскажу брату ўсё, што я тут даведаўся. Гэта добра і для мяне, бо я лепей навучуся лекцыі, як расказваю яе брату. У другую нядзелю брат пойдзе ў школу і раскажа мне лекцыю“.

**У СССР не павінна быць ніводнага няпісьменнага чалавека.**

## З і м а.

Надышлі марозы,
Рэчкі захавалі,
Белыя бярозы
Інеем убралі.
Мяккая пярына
Вочы адбірае;
Белая раўніна
Ні канца, ні краю!

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Поле анямела,
Змоўклі ручаёчкі.
І схіліліс лозы,
Чуць гальлём хістаюць,
А ў палёх марозы
Ды вятры гуляюць.

## Мяцеліца.

Сівыя хмары неспакойна забегалі па небе. Падняўся вецер, густа і працяжна зашумеў стары лес на ўсе галасы. А хмары бягуць, сьцелюцца ніжэй, гладчэй, раўней і аблягаюць усё неба. Пасыпаўся сьнег мільёнамі камячкоў дробнага, мяккага пуху. Залёталі, закружыліся яны халодным пылам. А вецер крапчэе, узьдзірае сьнег зьнізу ў поле, падымае яго ўгару, круціць стаўбамі, і белы віхор сьнежнага пылу далёка прамчыцца па полі. Неба мяшаецца з зямлёю. Усюды, куды ні глянь—бель і бель, і ня можа вока абняць гэту белую сьцяну. А як заліваецца вецер у полі! Сьвішча ён у платох дзікім зьверам, зьдзірае саламяныя стрэхі, налятае на адзінокія

дрэвы, варочае кожную іх галінку, кожны сучок. Борзда насыпаюцца белыя курганы, гіне дарога, усё зьліваецца ў адну белую пялёнку.

Страх нападае на падарожніка, каторага захопіць завея ў дарозе.

---

Як вы ў сябе адмячаеце пагоду?

Б. 47324

## Песьні зімы.

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палёх,
І сьнегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясох.
Люблю я ветру сьпеў гаротны
У мужычых комінах глухіх,
На полі белыя палотны,
Абрусы хмарак сьнегавых,
Што засьцілаюць лугавіны
І далі ціхія палёў.
Мне любы елкі і хваіны
Пад белай наміткай сьнягоў.



# II. ЗІМОВЫЯ РЭВОЛЮЦЫЙНЫЯ СЬВЯТЫ.

## Па хлеб... да цара.

### I.

— Мамка, дай хлеба!

— Сьпі, Нінка, заўтра дам. Заўтра да цара пойдзем. Цар добры, ён усяго дасьць.

— І хлеба белага?

— І хлеба белага.

— З разынкамі? і малака?

— З разынкамі, і малака. Сьпі, Нінка!

Кепска жылося беднай Міронісе. Мужа яе цар узяў на вайну з японцамі. Асталася яна з двума дзяцьмі: Грышкай—8 год і Нінкай—4 год. Цэлы дзень працуе яна на фабрыцы, а грошай нават і на хлеб не хапае. А дарагоўля ўсё расьце ды расьце. Адна надзея засталася на цара. Даведаецца цар, што так дрэнна жывуць рабочыя, і дапаможа ім. З гэткімі думкамі і заснула Міроніха.

Б 47324



## II.

На другі дзень Міроніха хутчэй прыбрала ў хаце, апранулася цяплей, узяла царскі

портрэт і пабегла на сваю фабрыку, а адтуль са ўсімі рабочымі і работніцамі пашла да цара.

Настрой у рабочых быў добры, усе спадзяваліся на цара.

Нясьлі абразы, царскія портрэты, сьпявалі песьні. Дашлі да царскіх палацаў і сталі чакаць цара. Шмат было й дзяцей. Каб лепей разгледзець цара, многія паўзьлезьлі на дрэва каля палацу. Быў тут і Грышка Міронісін. Ён залез вышэй усіх на самае бліжэйшае дрэва.

## III.

А цар? вышаў ён да народу? Не. Ён загадаў свайму войску расстраляць рабочых і парубаць іх шаблямі. Як пачулі рабочыя, што страляюць, кінуліся бегчы, а тут на іх коньніца з шаблямі. Многа было забіта, паранена, заарыштована.

Міроніха, як пачула, што страляюць, успомніла пра Нінку ды хутчэй за браму на панадворак, а адтуль ціханька на сваю кватэру. Грышкі дома ня было. Занепакоілася Міроніха, шукала па суседзях — Грышкі няма.

Увечары прынясьлі Грышку на руках. Нага ў яго была ўся ў крыві.

— Мамка, цар люты... ён вораг... А Патапка Архіпаў забіты.

О-о-о!



Закіпела сэрца ў Міроніхі. Цар люты. Але, ён наш люты вораг! І ўвесь народ зразумеў, што цар—люты вораг. Усе страцілі на яго надзею.

---

Як жылося рабочым за царом?

Што зрабілі працоўныя з царом і панамі?

Напішэце плякат: **„Цар даў загад страляць ля палацу рабочых людзей“.**



**21-га студзеня 1924 году памёр Уладзімер Ільліч Ленін.**

Ленін хацеў, каб ня было бедных, каб усім жылося добра. Ён дапамог рабочым і сялянам узяць уладу ў свае рукі.

Ленін сказаў, што навука для дзяцей беднаты.

Ленін вельмі любіў дзяцей. Ён сказаў: „Дзеці—кветкі зямлі. Яны—наша будучына. Лепей вучэце іх і болей любеце“.

## Куток Леніна.

Пасьля апавяданьняў настаўніка пра Леніна рысуйце малюнкі. Малюйце плякаты. Прынясеце з дому, хто можа, кніжкі, малюнкі, газэты пра Леніна. Напішэце, што вы даведаліся пра Леніна.

Зрабеце палічку для кутка Леніна. Усё гэта зьбярэце ў адно месца.

## Правадыру.

Ведай, сусьветны рабочы,
Ведай і ты, селянін,
Зямлі пролетарскі сын,
Ведай увесь пролетарскі абшар—
Памёр наш Правадыр—Вялікі Комунар.
Спавіў, атуліў жаль
Працоўную сям'ю...
Але пакінем сум,
Ня трэба жальбы, сьлёз!
Нічога ён з сабою ў магілу ня ўнёс.
Увесь скарб сваіх вялікіх дум
Цалком пакінуў нам,
Жыцьця гаспадаром.

# Хто быў Ленін.

## I.

Уладзімер Ільліч Ленін радзіўся ў горадзе Сімбірску 23 красавіка 1870 году. Бацька Леніна быў дырэктарам народных школ. Дзяцінства сваё Ленін правёў у вёсцы. Любімымі яго таварышамі былі вясковыя хлопчыкі, з якімі ён любіў гуляць у бабкі, лавіць рыбу, езьдзіць на начлег. Для гульні ў бабкі ў Валодзі была чугунная бабка, якою ён зьбіваў усе косьці. Валодзя рэдка заставаўся бітым.



Ленін 3-х год.

Валодзя вельмі любіў прыроду. Часта, каб яго ўзялі на начлег дарослыя, ён пускаўся на хітрасьці.

„Вазьмеце мяне з сабою на начлег. Я для ўсіх нарыхтаваў гарбаты, цукру. Я вам вогнішча разьвяду, дроў наламлю“.

Старэйшыя не згаджаліся. Валодзя набіраўся сьмеласьці і йшоў па іх сьлядох на начлег.

## II.

Дзевяці год Ленін паступіў у гімназію. Ён быў шустры, вясёлы і вельмі здольны хлопчык. Калі старэйшыя браты і сёстры займаліся, Валодзя ім часта перашкаджаў. Бацька гукне Валодзю і пытаецца:



Ленін 9-ці год.

—Ты чаму лекцый ня вучыш?

—А я ўсё ведаю— адказваў Валодзя. Бацька пачне яго пытацца—Валодзя адказвае без запіначкі. Каб болей затрымаць Валодзю, бацька пытаецца і аб старым. Валодзя і гэта ведаў. Здольны быў Валодзя і заняткі яму лёгка даваліся.

На семнаццатым годзе свайго жыцьця Ленін скончыў гімназію з залатым мэдалем.

Паступіў у унівэрсытэт. Але яго хутка выключылі за яго вольныя думкі. Ленін займаўся сам і на дваццаць першым годзе вытрымаў экзамен за унівэрсытэт.



Ленін 17-ці год.

## III.

Ленін многа вучыўся. Калі Леніну было 25 год, яго заарыштавалі і пасадзілі ў турму. І тут Ленін не бедаваў. Усё чытаў і чытаў, вывучаў Карла Маркса. Ён так быў захоплены кнігамі, што калі прышла да яго сястра і сказала, што яго хутка выпусьцяць, ён жартліва адказаў: „Так скора? А я яшчэ не падрыхтаваўся, ня ўсе матэрыялы сабраў“.

І Ільліч усё зьбіраў. Сабраў Комуністычную Партыю, арганізаваў рабочых. На гэта ён палажыў усё сваё жыцьцё.

Працаваў і губляў свае сілы Ленін не дарма. Рабочыя і сяляне ў Кастрычніку 1917 году ўзялі ўладу ў свае рукі.

## IV.

Да 1923 году Ільліч вельмі многа працаваў. Быў Старшынёю Саветаў Народных Камісараў. Напісаў многа кніг, каб мы па іх вучыліся, як будаваць сваё сьветлае жыцьцё. Леніна ведаюць працоўныя ўсёй зямной кулі. Усе рабочыя і сяляне ўспамінаюць Леніна з вялікай любоўю.

Цяжкая праца зламала моцныя сілы Ільліча. Ільліч памёр на 54 годзе свайго жыцьця. Яго праца ня згінула дарма.

Заместа Леніна, засталася Комуністычная Партыя, засталіся ўнукі—комсамольцы і піонэры, якія выканаюць да канца распачатае пры Леніне.



## Пахаваньне Леніна.

Роўна а чацьвертай сэрцы заміралі...
Роўна а чацьвертай сьцягі апускалі.
Роўна а чацьвертай ў нямой цішыне
Гукі жалобы пачуліся мне.
Ці гэта вецер гудзіць на дарозе?
Ці гэта хвоі схіліліс ў трывозе?
Роўна а чацьвертай сьцягі апускалі.
Друга рабочых ў магілу спускалі.

## Ільлічу.

(дзіцячы)

Ты памёр, ты памёр, наш настаўнік,
Наймілейшы Ўладзімер Ільліч...
Але справа твая засталася
І ніколі ня згіне твой кліч!
Піонэрам, унукам сваім,
Пакінуў ты многа заветаў.
Барацьбу з капіталам мы скончым,
Барацьбу, распачатую дзедам!

**Піонэр, слухай:**
**Ленін сказаў—**
**вучыцца трэба!**



# Заветы Леніна дзецям.

**Хочаш быць падобным да Леніна, выконвай:**

1. Дапамагай у барацьбе за лепшае жыцьцё працоўных.

2. Дзяліся са сваімі таварышамі ўсім, што ты маеш. Дапамагай ім, калі каму цяжка.

3. Помні, што веды і праца разам жывуць; дзеля таго, каб здужаць ворага, трэба многа ведаць і вучыцца. Працуй, вучыся, і ты будзеш добрым комуністым і добрым таварышам.

# Што я ведаю пра Леніна.

Ён працаваў яшчэ ў часы цара. Ён хаваўся ў сена. У сутарэньнях ён зьбіраў рабочых. Ён гаварыў: „Ня хлеба вам трэба прасіць у цара, вам трэба ўзброенымі выходзіць супроць цара“. Рабочыя зразумелі, што ім трэба скінуць буржуяў. У час Кастрычнікавае Рэволюцыі рабочыя прагналі цара і зрабілі Савецкую Ўладу.

---

Напішы, што ты ведаеш пра Леніна.

# Гульня ў салкі.

Адзін раз татка паехаў да Ўладзімера Ільліча і ўзяў мяне з сабою і майго брата. Я і брат гулялі ў садзе, а татка гаварыў з Леніным аб розных справах. Потым Ільліч пачаў гуляць з намі ў салкі і я злавіла яго за рукаў. Ільліч вырваўся, засьмяяўся і кажа: „Ты мяне не злавіла!“

—Як так?!—зьдзівілася я.

—Ты злавіла мой рукаў, а не мяне,—і пабег.

У той час рука ў Уладзімера Ільліча была паранена і ён не адзяваў яе ў рукаў. І мне зноў прышлося яго лавіць.

---

Я бачыў, як труну Ільліча апускалі ў магілу. Было вельмі многа народу. Плакалі жанчыны і некаторыя мужчыны. Калі яго апускалі ў магілу, дык доўга гудзелі гудкі і была страляніна.



## Пойдзем наперад!

Звеньнямі ў шэрагі стройся, атрад!
Дружна сальлемся з сям'ёю грамад.
Дружна і сьмела гартуйма свой шаг,—
Вышай трымайма чырвоны наш сьцяг!

Пойдзем наперад! Нас заўтра заве.
Мы, піонэрыя,
З моцнаю вераю
Выпаўнім Леніна сьветлы завет!

Зьвеньнямі ў шэрагі стройся, атрад!
Дружна сальлемся з сям'ёю грамад.

**Піонэр—юны ленінец.**
**Ён малодшы брат комсамольца**
**і комуністага.**

## Чырвонаармейская.

Сьмела ўперад дружным сьпевам!..
Раз! два! Левай!
Шлём, шынэль, штык, патроны...
Дружна ўперад, полк чырвоны!
Барабанам рытмы нашы.
Наш задор у звонах маршу.
Гэй, разгонны полк чырвоны,



Час прышоў! Раўняй колёны...
Ўзвод за ўзводам, крок за крокам,
Дружна ўперад! Фронт шырокі!
Сьмела ўперад дружным сьпевам!
Раз! Два! Левай!

---

Вывучэце гэты верш усёй клясай разам.

Ці ёсьць у вас сваякі альбо знаёмыя чырвонаармейцы? Што яны расказвалі пра вялікую барацьбу.

**Чырвонаармейцы—гэрoі рэволюцыі.**

# Вясковай кабеце.

Ты знала прыгоншчыну злоснага пана,
Ты плакала вечна ад рана да рана,
Ты зносіла гвалты і зьдзекі з пакорай,
Ты мела бязьмеры пакуты і гора.



Мінулі нядолі—няволі часіны,—
Ужо над кабетай ня строяцца кпіны
Ніхто не кране яе нават на волас.
Кабета, ты маеш у воласьці голас!



Дзяўчына малодая, сталая матка,—
На зьездах Саветаў і ты дэлегаткай!
Будуй сваё шчасьце адважна і поўна—
Пад сьцягам чырвоным з усімі ты роўна!



## Маленькая работніца.

Была халодная зіма. Бедныя людзі хадзілі ў лес зьбіраць ламаччо, каб ацяпляць хату. Маці маленькай Настулькі была хворая і не магла выходзіць з хаты. Бацькі ў Настулькі ня было. Але покуль маці была хворай, Настулька не сядзела, злажыўшы рукі. Яна кожную раніцу хадзіла ў лес і прыносіла дамоў крыху ламачча. Гэтак, дзякуючы малой Настульцы, было цёпла ў беднай хатцы.

---

Як вы адносіцеся да сваіх таварышаў-дзяўчатак?

Як вы правялі сьвята работніцы?

Зьбярэце свае малюнкі і запісы ў куток працоўніцы.



# III. НАЎКОЛЬНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

## Узімку.

Маці з калаўротам
Села ля вакна;
Хоча ставіць кросны
Пад вясну яна.
Завіруха плача,
Грукае ў акно,
І грахоча пралка
З ёю за адно.
Каля мамкі дзеткі
Селі ўсе ў радок.
Ім прытульна, добра—
Цёплы іх куток.

Хай гудзіць там сівер,—
Тут ня страшна ім,
Дзеткам добра, шчасна
У кутку сваім.

## Бяспрытульныя.

Да сусьветнай вайны ў нас бяспрытульных было меней. На вайну цар узяў вельмі многа людзей. Дома аставаліся толькі жанчыны і дзеці. Жыць стала вельмі цяжка.

Многа бацькоў было забіта, і дзеці засталіся сіротамі.

У нас, на Беларусі, былі бойкі, людзі ня вытрымлівалі, уцякалі з роднай краіны далей на ўсход, дзе боек яшчэ ня было. Уцекачом жылося дрэнна, ня было чаго есьці, яны хварэлі рознымі заразнымі хваробамі і ўміралі. Дзеці заставаліся адны.

Потым быў вялікі голад, асабліва на Волзе. Разам з голадам былі і хваробы. Зноў многа людзей паўмірала. І ад іх засталіся дзеці. Затым у нас так многа бяспрытульных. Савецкая ўлада пабудавала многа дзіцячых дамоў, але іх не хапае. Дзеці ходзяць абадраныя, галодныя, без свайго кутка, бяз хлеба, бяз прытулку.

---

Парайцеся, чым вы можаце дапамагчы бяспрытульным.



## Доля сіраціны.

Цяжка сіраціне
Адзінокай жыць,
Доля-весялуха
Зьнікуль не бяжыць.
За хатай і ў хаце
Цярпіць сірата:
То мароз марозіць,
То золіць слата.
Ад брамы да брамы
Йдзе зьбірае хлеб,
Ручачку працягне—

Кожны глух і сьлеп.
Кожны насьмяецца
Над беднаю ёй,
Са зрэбнай кашулі,
З лазовых лапцёў.

---

Ці ёсьць у вас у вёсцы сіроты? У каго яны жывуць?

## Дзеці.

Ішоў я раз па лесе і сустрэў там троe дзяцей. Дзьве маленькія дзяўчынкі зьбіралі гальлё і вязалі яго. Пад дрэвам сядзеў худзенькі хлопчык і еў скарынку хлеба.

Я папытаўся ў дзяўчатак:

— Што вы тут робіце?

Большая дзяўчынка сказала:

— А мы тут гальлё зьбіраем.

— А хлапец—гэта брат ваш?

— Не, чужы.

— Ён сірата,—дадала малодшая дзяўчынка,—матка ў яго памерла, бацька бедны, і нічога няма. Вось мы шкадуем яго, прыносім яму чаго-небудзь зьесьці і памагаем яму зьбіраць гальлё.

Як хлопчык зьеў хлеб, дзяўчынкі памаглі яму падняць вязанку гальля і пашлі з ім разам у вёску.

— Трэба яго прапусьціць дамоў, каб яго вясковыя хлопцы ня скрыўдзілі,—сказала старэйшая дзяўчынка.




## Наш дзіцячы дом.

### (Апавяданьне Надзеі Л.).

Мой бацька быў селянін. Яго забілі на вайне. Маці памерла ад тыфусу. Асталіся я і сястра мая Алёна. Дзядзя адвёз нас у Менск у дзіцячы дом. Нас абедзьвюх прынялі. Цяпер гэта дзіцячы гарадок № 1. Нас усіх трыста дзяцей. Мы жывём па колектывах. У нас ёсьць піонэры. Яны носяць чырвоныя гальштукі. Я запісалася ў акцябраты.



## У дзіцячым садзе.

### (Апавяданьне Гэлі А.).

Летась я была ў дзіцячым садзе. Калі мяне матка завяла туды, дык я баялася і плакала. Потым мне там падабалася. Там многа цацак, кніжак, там музыка і ёсьць куток Леніна.

Мы хадзілі на экскурсіі, малявалі і рабілі розныя рэчы. А я зрабіла аэроплян. Там весела, многа дзяцей. Цяпер я вучуся ў школе.

---

Ці ёсьць у вашай мясцовасьці дзіцячы сад?

Ці былі вы там? Схадзеце і даведайцеся, чым там дзеці займаюцца.

Ці ёсьць палёгка матцы ад дзіцячага саду?



## Старац узімку.

Сьнег замятае дарогу,
Бура сярдзіта гудзе,
Старац—калека убогі—
Вуліцай вёскі ідзе.
Хоць не пад сілу старому
Гэткай парой жабраваць,—
Ходзіць бядак: пасваёму
Мусіць свой хлеб здабываць.

## Памоцнік.

Позна ўвечары вярнуўся бацька з работы. Ён вельмі ўтаміўся, ледзь перастаўляў ногі. Увашоўшы ў хату, ён сеў каля стала і цяжка ўздыхнуў.

— Чаго ты ўздыхаеш, тата?—запытаўся ў яго маленькі сын.

— Вельмі стаміўся, сынок, многа працаваў,—адказаў бацька.

На другі дзень, ледзь толькі разьвіднела, хлопчык стаў хуценька адзявацца.

— Ты куды-ж гэта так рана зьбіраешся?—запыталася ў яго маці.

— Пайду з бацькам на работу. Трэба яму памагчы.

---

Як вы дапамагаеце дома бацьку й маці?

## Шавец.

Я шавец-маладзец,
Знаю дзела сваё,
Слухаць мусяць мяне
Капылы і скур'ё.
Пры варстаце маім
Дружна праца ідзе,
Жонка дратву прадзе,
Сын мой суча яе.
І багат-бы я быў,
Хоць ня бедзен і так,
Каб лапцей не насіў
Наш мужык-небарак.



---

**Пытаньні:**

Ці ёсьць у вашай мясцовасьці шавец?

Якая ў яго майстэрня?

Якія прылады ў шаўца? Нарысуйце іх.

Колькі чалавек працуе ў майстэрні?

Колькі рэчаў вырабляе шавец у месяц? Колькі ён зарабляе? Зрабеце маленькі капыл. Выражце падошвы, заднік з картону




Прылады шаўца.

## Шавец (гульня).

У гэтай гульні некалькі дзяцей становяцца ў рад адзін за адным. Самы задні стаіць з ручнікам у руках і пытаецца: „А дзе шаўцы?“—„На тым канцы!“—кажуць яму.

Той бяжыць у другі канец (наперад), а самы першы адтуль уцякае. Калі самы апошні ўдарыць уцекача ручнікам, пакуль той бяжыць на другі канец раду, дык уцякач становіцца з ручнікам, а каторы быў сьпераду —становіцца ў рад.

Калі самы апошні не злавіў уцекача, ён ізноў становіцца з самага заду і пачынае гульню.

## Загадкі:

1) У каго на нагах дзьве скуры?

2) Сам на нагах, а хаджу на галаве; сам у ботах, а хаджу басанож.

---

**Разгадкі:** 1. У таго, хто ў ботах. 2. Цьвік.

## У кравецкай майстэрні.

1. Як здымаюць мерку? Як рысуюць часьціны вопраткі (сьпінку, рукавы, полы і інш.) на матэрыі?
2. Як і чым крояць?
3. Як і чым сшываюць часьціны вопраткі?
4. Чым і як разгладжваюць вопратку?
5. Што робяць з падкладкай і гузікамі?

### Зрабеце самі:

1. Выражце розную адзежу з паперы. Калі можаце, дык сшыйце маленькія: кашулю, паліто, нагавіцы і інш.
2. Прышыйце вешалку да свайго паліта.



## Песьня каваля.

Мой горан палае,
І іскры ляцяць;
Я мех уздуваю
І буду каваць...
Працую, гарцую,
Як моцы стае,
Гартую, муштрую
Жалеза мае...

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую...

І гнецца парою
Жалеза і сталь,

Як возьме рукою
Здаровай каваль...
Скую, вось, касу я,
Загну, закручу.
І выйду у поле
Нядолю скашу...

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую.

# Кожны працуе для ўсіх.



## Вуглякопы.

Працуюць вуглякопы пад зямлёю. Здабываюць вугаль для кузьняў, цягнікоў і фабрык.

## Каваль.

Працуе каваль у сваёй кузьні, куе косы, сярпы, плугі для сялян.



## Фабрычныя рабочыя.

На фабрыках працуюць ткачы, гарбары, сьлесары, токары. Яны вырабляюць паркаль, скуры, сукно і розныя машыны.

## Селянін.



Селянін працуе ў полі, здабывае хлеб. Увосень селянін адвозіць зерне на млын і меле муку.

## Селянін і рабочы.



Увосень селянін адвозіць хлеб у горад. Хлеб купляюць рабочыя. Рабочым бяз хлеба не пражыць.

Селянін купляе ў рабочых боты, плугі і паркаль.

Селянін патрэбен рабочаму, рабочы патрэбен селяніну.

## Школа.

У школе працуе настаўнік, каб дзеці сталі пісьменнымі. Дзеці вучацца, стараюцца малыя. Усе працуюць. Праца кожнага патрэбна на карысьць усіх.

---

Зрабеце колекцыю, што дае вёска гораду і горад—вёсцы.

**Няхай жыве саюз гораду й вёскі.**

# Плякат.

З усіх ног беглі сягоньня Янка, Юрка і Марыся дамоў са школы. У торбачцы Янкі, апрача кніжак і сшытка, была папера і фарбы. Усе трое згадзіліся нарысаваць дома плякат: „Няпісьменнасьць—наш люты вораг! Сялянкі, ідзеце вучыцца“. Сьпяшаючыся паабедаў Янка. Прышлі яго сябры і ўзяліся за працу. Вялікі плякат, але ўтрох хутка з ім справіліся! Адзін літары пісаў; двое размалёўвалі. Нарэшце яшчэ намалявалі з аднаго боку сялянку з кніжкаю, з другога—піонэра. У той-жа вечар плякат аднесьлі настаўніку. На другі дзень у хаце-чытальні быў сход сялянак.



Прышлі і дзеці паглядзець. А іх плякат вісіць на сьценцы. Усе яго бачаць. Усе чытаюць. Аж сэрца застукала ад радасьці. Янкава маці глянула перш на Янку, потым на плякат і засьмяялася.

---

Што робяць у хаце-чытальні? Што вы зрабілі для хаты-чытальні?



## Наш Гняды.

Нашаму Гнядому ўжо тры гады. Бацька сказаў, што пара яго да працы прывучаць. Яшчэ раней прывязвалі Гнядога побач з яго маткай Рыжай. А цяпер запраглі ў лёгкую запражку і паставілі побач з маткай. Спачатку Гняды не даваўся запрагацца, але скора прывык і навучыўся добра хадзіць у запражцы. Потым Гнядога і аднаго запраглі ў лёгкія санкі і пусьцілі ўсьлед за Рыжай. Нічога, добра пашоў Гняды па роўнай дарозе—лёгка, весела й шпарка.

Летам на Гнядым вазілі гной, скародзілі поле, сеялі бульбу. Скора прывучыўся Гняды да працы.

І разумны-ж быў наш Гняды!

Паехалі мы раз з бацькам на Гнядым у горад. Быў ужо вечар, калі мы вярталіся да хаты. Раптам паднялася завея. У полі зрабілася зусім цёмна, толькі сьнег і сьнег. Мы ня ведалі, куды ехаць. Бацька кінуў лейцы і сказаў:

„Ну, Гняды, вывазі, мілы!“

Гняды пастаяў крыху, падумаў, падняў галаву, панюхаў навокал. Потым ціха пашоў па цаліне і прывёз нас проста да хаты.

Разумны наш Гняды!

## Ці ведаеш ты свайго каня?

1. Якой масьці ваш конь?

2. Як у яго пабудованы вушы?

3. Якія ў яго капыты?

4. Навошта каня падкоўваюць? Ці баліць каню, калі яго падкоўваюць?

5. Як конь сьпіць?

6. Чым вы корміце свайго каня? Колькі даеце ежы за адзін раз? Калі поіце? Ці чысьціце каня? Як вы чысьціце?

7. Якую працу робіце на сваім кані?

8. Калі і навошта зьмяняецца поўсьць у каня?

9. Колькі коняй у вашай вёсцы?

## Гаспадарны хлапец.

— Паіў ты каня?

— Паіў.

— Чаму-ж у яго морда сухая?

— А бо вады не дастаў.

---

Які дагляд патрэбен за канём? Калі конь успацеў, ці можна яго паіць?

**Прыказкі:** 1) Не гані каня дубцом, а гані аўсом. 2) Скаціна бязмоўна, ня скажа, што піць хоча.



## Карова.

Карова адна з найболей карысных жывёлін. Сама па сабе карова—жывёла лагодная, разумная і мілая. Корміцца карова ўлетку на пашы травою, а ўзімку сенам, саломай і памыямі.

Карова любіць чыстату. Раз у тыдзень добры гаспадар мые і чэша карову. Перад даеньнем трэба кожны раз абмываць вымя.

## Хлеў на зіму трэба рабіць цёплы.

Карова дае чалавеку малако. З малака робяць сьмятану, сыр і масла. З лою робяць

сьвечкі і мыла. З рог робяць грабяні і ручкі для нажоў. Мільёны людзей кормяцца кароўім мясам. З скуры робяць боты. З капытоў вараць сталярскі клей.

---

**Заданьні:**

Колькі кварт малака дае ваша карова?

Колькі мусіць даваць добрая карова?

Колькі ежы даеце вашай карове на дзень?

Колькі кароў і цялят у вашай вёсцы?

Нарысуй тваю карову. Нарысуй (альбо зьбяры), якую карысьць прыносіць карова.

---

**Прыказка:** Карова на дварэ, харч на стале.

## Гладышы (гульня).

Дзеці выбіраюць з паміж сябе ката і матку. Пасьля ўсе, апрача ката і маткі, садзяцца на зямлю, а матка кажа кату: „Глядзі-ж, каток, я пайду ў поле да работы, а ты пільнуй маіх гарлачыкаў, каб іх ніхто не абярнуў“.

Матка адыходзіць у бок, а кот абходзіць дзяцей і кажа на аднаго: „Гэта сьмятанка!“

На другога: „Гэта сываратка!“ На трэцяга: „Гэта тваражок!“ На чацьвертага: „Гэта сырок!“ і гэтак далей і пачынае пераварачваць. У гэты час прыходзіць матка. Яна бачыць пераварочаныя гладышы і ловіць ката, а злавіўшы, лае: „А не чапай сьмятаны, ня бі гладышоў“. Кот стараецца вырвацца і ўцячы.

Далей гульня йдзе, як спачатку.



## Сьвіньня і яе дзецi.

Ідзе сьвіньня па дварэ, а за ёю яе дзеткі— парсючкі беленькія. Многа іх, яна і зьлічыць іх ня можа. Сама тоўстая; на хрыбце шча-

ціна; вушы, як анучкі; нос пятачком; вочкі маленькія; хвост кручком. Ідзе і навучае сваіх дзетак: „Цяперака я вас малачком сваім паю, а падрасьцеце—рыйце зямлю лычам. Усё, што знойдзеце—ежце: мыш, дык мыш; траву, дык траву; усё—мяса, хлеб, муку, жалуды,—усё ежце. Кожны дзень залазьце ў гразь і паболей ляжэце там. Будзеце ісьці міма вугла—пачашэцеся“.

Слухаюць парсючкі сваю матку і ўсё запамінаюць.

## Разьвяжы:

Ангельская чорная сьвіньня аднаго году важыць 10 пудоў, а наша сьвіньня такога-ж узросту важыць 2 пуды.

На колькі пудоў ангельская сьвіньня важыць больш за нашую?

## Сьвіначка.

— Сьвіначка, дзе была?

— У суседа на дварэ.

— Ну, што там?

— Кепска! Ніякага парадку: двор чыста вымецен, усюды чыстата. Нельга ні ў гразі пакапацца, ні ў лужы паваляцца.

---

**Пытаньні:** Якую карысьць прыносіць сьвіньня?

Чым яе кормяць? дзе яна жыве?

Якой масьці бываюць сьвіньні?

Якія пароды сьвіней вы ведаеце?

Паназірай за сваёю сьвіньнёй, як яна есьць.

## Загадка:

Па зямлі ходзіць, неба ня бачыць; нічога не баліць, а ўсё стогне.

## Ярачка.

Была ў нас авечка Лыска. Лыска прывяла Ярачку. Прыгожая была Ярачка і такая ласкавая! Мы ёй давалі хлеба проста з рук.



Вясною Лыску і Ярачку пагналі на пашу. Увечары мы сустракалі нашых авечак. Для Ярачкі заўсёды прыгатовім смачнай траўкі. Яна ўжо ведала, што мы яе пачастуем, і весела бляяла.

---

Што дае нам авечка? Што робяць з воўны?

**Зрабеце колекцыю:**

1. Нямытая воўна;
2. Воўна, вымытая ў гарачай вадзе;
3. Расчэсаная воўна;
4. Суконная нітка;
5. Кавалачкі сукна на коўдры і паліто;
6. Зрабеце з дрэва маленькую прасьніцу.

## Хто колькі год можа пражыць?

| | | |
|---|---|---|
| Чалавек . . . . . | 60 | год. |
| Конь . . . | ад 15 да 30 | „ |
| Бык . . . . | ад 25 да 30 | „ |
| Авечка . . . | ад 12 да 14 | „ |
| Каза . . . . | ад 18 да 27 | „ |
| Сабака . . . | ад 16 да 26 | „ |
| Кот . . . . | ад 10 да 12 | „ |
| Трус . . . . . | да 10 | „ |
| Мыш . . . | да 3 | „ |
| Жаба . . . . . | да 16 | „ |
| Груган . . . . . | да 40 | „ |

## Не падзеляць.

Ела котка малако з міскі. Да коткі падбег Палкан. Котка зафыркала на Палкана. Палкан гаркнуў і схапіў котку за хвост. Мама лінула на іх вады. Котка пабегла пад лаву, а Палкан—на двор.

## Шарык і аса.



Салодка сьпіць Шарык, адпачывае. А над ім аса лётае, гудзіць каля самага вуха.





Прачнуўся Шарык, стаў на лапкі, хоча асу панюхаць.



Села аса на кветку. Раззлаваўся Шарык, забрахаў. А аса ўсё гудзіць.

Падскочыў Шарык.

Хоча асу зубамі цяпнуць.

Раззлавалася аса і ўкусіла Шарыка за губу.



І панёсься Шарык ва ўсе лапаткі, бачны толькі пяткі.

---

**Пытаньне:** Якія пароды сабак вы ведаеце?

## Назірай за сваім сабакам.

1. Якой пароды ваш сабака? Якога ён росту?
2. Якая на ім поўсьць?
3. Колькі яму год? Стары ён ці малады?
4. Якія ў сабакі зубы?
5. Якія вушы? Ці такія, як у коткі?
6. Як сабака абараняецца ад ворагаў?

7. Якую карысьць прыносіць сабака?
8. Ці разумны ваш сабака?
9. Як яго завуць?

## З а г а д к а:

Ня птушка—не пяе, а хто к гаспадару йдзе—знаць дае.

## Сабака заразіў.

У нас быў сабачка Жучок. Мой брат Міколка вельмі яго любіў. Здарылася, што Міколка захварэў. Павялі Міколку да доктара, а Жучок за ім. Доктар агледзеў Міколку і сказаў, што ў яго ў кішках жыве вялікі гліст—солітэр. Убачыў доктар сабачку і пытаецца: „Ты вельмі любіш свайго сабаку?“—„Але, я яго вельмі люблю і нават цалую, а ён мянё.“—„Гэта добра, што ты любіш сабаку.“ сказаў доктар: „а што яна ліжа цябе, гэта вельмі дрэнна. Гэта яна заразіла цябе глістамі. Яна можа і іншымі хваробамі цябе заразіць. Ня трэба ніколі лашчыць рукамі сабаку і котак, асабліва цалаваць і дазваляць ім лізаць сябе“.

## Два таварышы.

У баку ад вёскі стаіць на беразе рэчкі адзінока млын. На ганку сядзіць хлопчык. Навокал нікога няма. Толькі Шарык, тава-

рыш хлопчыка, сядзіць на ланцугу каля свайго доміка.

Паказаліся на небе цёмныя хмары, блісъ нула маланка, загрымеў гром, і дождж паліў, як з вядра. Хлопчык увашоў у пакой, а Шарык схаваўся ў сваю будку ад вялікага дажджу. Маленькая рэчка падымалася ўсё вышэй і вышэй і пачала заліваць двор.

Бачыў хлопчык з вакна, як залівае вада будку Шарыка, які сядзеў на ланцугу і сумна глядзеў на хлопчыка, быццам прасіў у яго дапамогі. У момант выбег хлопчык. Вада яму была па пояс. Ён хуценька дабраўся да Шарыка і адвязаў яго з ланцуга. Шарык паплыў да ганку.

У гэты час вада паднялася яшчэ вышэй. Хлопчык ня здужаў хвалі, яна яго зьбіла з ног, і хлопчык закрычаў. Пачуўшы гэта, Шарык кінуўся да хлопчыка, схапіў яго за адзежу і выплыў на ганак хаты.

## Зрабеце:

1. З картону можна зрабіць хатку. З маленькіх палачак можна зрабіць двор і плот навокал хаткі.

2. Карову можна зрабіць з бульбы. Адну бульбіну вялікую, другую малую (заместа галавы) праткнеце дубцом. Ногі зрабеце з палачак.

3. Каня і сабаку можна зрабіць з гліны або выразаць з картону.

4. Усе гэтыя жывёліны пастаўце на дварэ хаткі. Каля хаткі прымацуйце хваінкі—дрэвы.



## Коцік.

Хлопчык любіць коціка,
Лашчыць ён варкоціка,—
Коцік міл яму.
З ім на двор гуляць ідзе;
Часта малачка дае
Ён сябру свайму.
Ходзіць коцік беленькі,
Хвосьцік яго шэранькі,
А бяжыць—стралой.
К хлопцу прытуляецца,
Сьпінкай выгінаецца,
Хвост яго—дугой.
Як убачыць птушачку,
Хутка лапатушачку
Хоча ён схапіць.
Вочкі разгараюцца,
Кіпці выпрастаюцца,
Ён за ёй бяжыць.

Поўсьць у яго чыстая,
Белая, пушыстая,
Мяккая, як лён.
Мышкі сьцеражэцеся,
Ціха!.. Беражэцеся!
Ў міг вас зловіць ён.



## Назірай за сваёй коткаю.

1. Якога колеру ваша котка?

2. Якія ў яе вочы? Якія яны бываюць у цемнаце?

3. Якія ў яе лапкі? Чаму нячутна яна йдзе па падлозе?

4. Якія зубы ў коткі?

5. Які язык у коткі? Дай палізаць котцы твой палец.

6. Чым котка жывіцца?
7. Як котка мыецца? Як яна сьпіць?
8. Якую карысьць прыносіць котка?
9. Хто разумней—котка ці сабака?

## Кот і пацук.

У нас была вялікая котка Машка. Калі Машка была маладая, яна добра лавіла мышэй і пацукоў. Адзін раз з клеці выскачыў вялікі пацук. Машка яго дагнала і хацела схапіць.



Але пацук быў вялікі, злосны і моцны. Ён стаў на заднія лапкі і ўчапіўся котцы ў морду. Аж замяўкала Машка! Але пацука ня кінула. Яна адважна стала змагацца з ім, кусала яго, драпала сваімі кіпцямі. Урэшце задушыла пацука, паважна прынясла ў хату і палажыла пад лаву.

### Назіраньні:

1. Хто большы—пацук ці мыш?
2. Калі мышы выходзяць з сваіх норак —уночы ці ўдзень?
3. Што мышы больш за ўсё любяць?
4. Калі зловіце мыш, дык разгледзьце ў яе поўсьць, лапкі, зубы і хвост.

# IV. ВЯСНА.

## Канец зіме.

Адсьпявалі завеі свае дзікія песьні. Даволі траскучы мароз цісную усё жывое і няжывое. Хоць і неласкава глядзіць яшчэ сіняе неба на зямлю і засьцілае свой абраз халоднымі пялёнкамі сьнегавых хмар, але часы йдуць к вясьне. Дзень большае, вышэй падымаецца сонца, цяплей грэе яно з кожным днём і капае сьнег у поўдзень са стрэх. Сьвятлее ўсюды.

Скора, скора прыдзе вясна, прыляцяць птушкі з выраю, ачысьціцца поле ад сьнегу, зазелянеюць дрэвы, зацьвітуць сады, вырасьце трава.

Эх, тагды будзе раздольле!

Скарэй прыходзьце к нам, цёплая вясна, вясёлыя ясныя дзянькі!

## Вясна ідзе.

Скідае лес цяжар няволі,
Яго гальлё блішчыць расой;
Вось скора, скора луг і поле
Пачнуць цьвісьці сваёй красой.
І птушкі ў гаі наўпярэдкі

Вясны прыход абвесьцяць нам,
Пакрые люд свае палеткі—
Аратых многа будзе там...
І заспарыцца праца ў полі:
Вялікі час—вясна ідзе,
Скідае ўсё ланцуг няволі,
Ручэй зычлівасьцю гудзе...
Вясна ідзе! Шуміць сасонка
Сярод грамад другіх сясьцёр,
А ў небе песьня жаваронка
Кідае кліч на ўвесь прастор.

**Веснавыя месяцы:**

Сакавік, красавік і травень.

---

**Прыказка:** І сакавік на нос садзіцца.

## Назірайце ў сакавіку.

1. За адлігамі, за марозамі і галяледзіцаю.
2. Калі зьявяцца першыя лапінкі?
3. Калі пабурэюць і папсуюцца дарогі?
4. Калі пойдуць крыгі на рэчцы?

5. Калі пачнуць рабіць рассаднікі?

6. Калі зьявяцца мухі, камары, матылі?

7. Калі вароны і вераб'і пачнуць будаваць сабе гнёзды?

8. Калі прыляцяць грачы?

9. Калі прыляцяць жаўранкі і шпакі?

## Свае назіраньні запісвайце ў дзеньніку.

### Форма яго такая:

| | | |
|---|---|---|
| | Сакавік 17. | Прыляцелі грачы. З даху капаюць каплі. На ўзгорку паказалася лапінка. Сьнегу стала меней. |
| | 20 | Распусьцілася іва. |



## У сакавіку.

Бацька з раньня да вечару на дварэ: ладзіць калёсы, папраўляе плуг ды барану, майструе збрую. Трэба, каб к сяўбе ўсё было гатова.

У садзе бацька прыбірае зімовую адзежу для дрэў, абчышчае дрэвы ад моху. Трэба, каб дрэвы сустрэлі вясну падчышчанымі.

Матка даканчывае тканьне, саджае на яйцы курэй і качак. А дзеці топчуцца паміж абодвымі. Дапамагаюць то аднаму, то другому.

---

Паназірайцє, як вашы бацькі рыхтуюцца да вясны. Які ўдзел вы прымаеце ў іх працы?



## Ідуць крыгі.

— Ідуць крыгі! Ідуць крыгі!—Першае, што пачулі сёньня ад дзяцей, якія жывуць за ракою. Хадзем глядзець! Праз дзесяць хвілін мы былі ўжо там. Вялізарныя крыгі нясьліся проста на быкі, пастаўленыя перад мастом. Крыгі налятали на быкі, станавіліся ўгару; на іх ззаду налятали другія, з трэскам разьбіваліся і яшчэ шпарчэй нясьліся далей ужо меншымі кавалкамі.

Вада ўсё прыбывала і прыбывала. Раніцаю было толькі пяць сантымэтраў, а прыгрэла сонейка—вада пераваліла за мэтр. Нясуцца крыгі з ровам, з трэскам. Нясуць

на сябе ўсё, што зьляжалася за зіму на лёдзе: галінкі, трэскі, дровы і цэлыя бярвеньні. Увесь бераг абсыпаны дзяцьмі. Іх гоман, зьдзіўленыя, захопленыя крыкі весела раздаюцца наўкола. Вясна, вясна ідзе! І нішто яе не затрымае.

---

Паназірайце за вашаю ракою, запішэце і зарысуйце.

## Паводка.

Крэпкі, магутны аковы зімовыя!
Лёдавы крыгі на захад і ўсход...
Бліснула сонца, сонца вясновае,
Топіцца гурбіна, топіцца лёд.
З грукатам, з ломам крыга за крыгаю
Прэцца, нясецца ў нязнаную даль;
Хваля за хваляю коціцца, мігае,
Ломіць прашкоды, як молатам сталь.

---

Ці ўмееце вы пускаць лодачкі ў раўчукох? Зрабеце лодачкі з дрэва.

## Загадкі:

1) Сам з вады радзіўся і ваду раджаю.
2) Ляціць—маўчыць, ляжыць—маўчыць, а як памрэ—тады зараве.

## Заклiканьне вясны.

### (Дзiцячы твор).

Прыхадзi, вясна, хутчэй, мы цябе вельмi чакаем.

Вясною так добра гуляць! Вясною сьнег растае, потым чарэмха цьвiце, i хочацца бегаць, гуляць па зялёнай траве.

Мы чакаем цябе ўсю зiму. I раптам выпаў халодны сьнег...

Ах ты, вясна, прыгожая вясна! Хутчэй прыхадзi. Мы будзем хадзiць на рэчку гуляць i рыбу лавiць.

Будзем у лес хадзiць i чарэмху ламаць i ў школу яе насiць. А ў школе будзем ставiць у бутэлькi. I так добра будзе!

## Гымн вясьне.

Прышла вясна магутная,
Прырода аджыла.
Устань, усё пакутнае,—
Вясна, вясна прышла!
Прышла вясна шумлiвая,
Руччамi загула;
Шумiць рака бурлiвая;
Вясна, вясна прышла!

## Малы млынок.

Штодня станавiлася ўсё цяплей i цяплей. Пацяклi ўжо ручайкi. Усе дзецi па-

выбягалі на вуліцу. Забаўляюцца вадою. У каго ў руках рыдлёўка, у каго кіёк. Адны пускаюць ручайкі, другія робяць граблі, масты. Хто да чаго здатны. Зьмітрачок пачаў рабіць млын. Узяў ён пруточак, дарабіў да яго лучынкі, як крыльле, і паклаў папярок ручаінкі. Вада ў ручаі цячэ, кратае крыльле, а тое круціцца. Ну, зусім, як кола ў млыне. Дзеці скачуць ад радасьці. Прычапіў Зьмітрачок да прутка нітку, а да ніткі прывязаў трэсачку і пусьціў яе на ваду. Кола круціцца, нітка наматваецца на пруток, і трэска, бы човен, плыве ўгару. Вось як прыдумаў Зьмітрачок! Дзецям дзіва, а Зьмітрачок кажа: „Як вырасту вялікі, пабудую праўдзівы млын, а сам буду млынаром“.



## Кватуха.

Вось ужо сонейка пачало цяплей сьвяціць. Куры пачалі класьці яйкі, і мамка ўзяла іх у хату. Марынка карміла курачак і лічыла

яйкі. Раптам адна курачка згінула. Няма й няма Чубаткі. Дзе падзелася?

А, вось дзе яна? Залезла пад ганкі. Хацела Марынка яе выцягнуць, ды ня йдзе. „Глянь, мамка, ды пад ёю ўжо чатыры яйкі.—„Не чапай яе, Марынка“, гаворыць матка: „чубатка хоча вывесьці дзетак“—і падклала пад яе яшчэ шэсьць яек. „Як гэта з яек Чубатка будзе дзетак выводзіць?“ думала Марынка і пачала кожны дзень сачыць за Чубаткаю. Калі квактуха зьлятала з гнязда, каб пакляваць, Марынка хутчэй да гнязда: глядзіць, мацае яйкі—цёплыя; прыложыць к вуху—ня шуміць, патрасе—нічога ня чуваць.

—Мама, разьбі яечка! Мы паглядзім, што там робіцца,—прасіла Марынка.

Але матка казала, што так куранятка ў яйку папсуеш.

## Назіраньні над кураняткамі.

1. Колькі яек падклала ваша матка пад квактуху?

2. Праз колькі дзён вывеліся кураняткі?

3. Якімі яны вывеліся? Якога яны колеру? Ці ўмеюць яны хадзіць? Ці ўмеюць глядзець?

4. Чым у вас кармілі першы, другі і трэці дзень куранятак?

5. Калі яны пачалі самі зьбіраць сабе ежу?

6. Ці пазнаюць яны голас сваёй маткі? Ці слухаюцца яе?

7. Ці пазнаюць кураняткі голас таго, хто іх корміць?

Пакармеце іх самі і праз некалькі дзён пагукайце.

## Каршун і качачкі (гульня).

Гульцы выбіраюць каршуна і матку. Пасьля становяцца ў рад ззаду маткі, крэпка трымаючыся адзін за аднаго. Каршун садзіцца на зямлю і капае трэскай ямку, а матка, ідучы з сваім хвастом навокал каршуна, пытаецца:

— Каршун, каршун, што ты робіш?
— Ямку капаю!
— На што табе ямка?
— Каменьчыкі шукаю!
— На што табе каменьчыкі?
— Іголачкі вастрыць!
— На ′што табе йголачкі?
— Мяшочкі шыць!
— На што табе мяшочкі?
— Каменьчыкі зьбіраць!
— На што табе каменьчыкі?
— Тваім дзеткам зубы выбіваць!

Пасьля гэтых слоў каршун кідаецца лавіць апошнюю ў хвасьце. Матка, расставіўшы рукі, забягае наўперад каршуну; увесь хвост падаецца за ёю. Ухапіць другую качачку, а ня заднюю каршун ня мае права. Гульня йдзе, пакуль каршун не адарве ад маткі ўсіх качачак.

## Гракі прыляцелі.

Гракі прыляцелі! Нашы першыя вястуны вясны! З вясёлым крыкам расьселіся яны на яшчэ голых дрэвах і пачалі перагаварвацца паміж сабою—каму трэба паправіць старое гняздо, а каму і зусім новае будаваць. Крык, гоман, лётаньне!



Так і здаецца, што яны крычаць нам:

„Ты прыдзі, вясна жаданая, прыдзі!
Гукам шчасьця, песьняй працы загудзі!“

---

Паназірайце, як гракі будуюць свае гнёзды?

## Прыляцелі жаўранкі.

Што гэта звоніць у небе тоненькім срэбраным званочкам? Так хораша, так міла! Ня відаць нічога, а ў небе ціха разьліваецца тоненькая песьня, як хто грае на срэбранай дудачцы. Гэта жаўранка! Галубка! Яна ўжо вярнулася з далёкай старонкі ў наш бедны край і ў ясным небе заліваецца дзіўнаю песьняю.



## З выраю.

Ляцяць яны да нас, ляцяць яны
З далёкай цёплай стараны,
Нясецца крык іх над зямлёй,
Бо бачаць ўжо край родны свой.
Прывет з далёкай стараны
Нам радасна нясуць яны!

## Шпакоўніца.

Старык-гароднік рабіў скрыначку. Выразаў з аднаго боку дзірачку і кажа: „Гатова кватэра!“

— Што гэта ты, дзядулька, зрабіў,— запытаўся ў яго маленькі ўнучак.



— Вясна надыходзіць, хутка шпакі прыляцяць,— гаворыць дзед,—вось аб іх я і клапачуся. Будуць яны жыць у маёй кватэры, а за гэта будуць песьні сьпяваць і гарод вартаваць.

— А як-жа шпакі гарод будуць вартаваць?— запытаўся ўнучак.

— К лету, унучак, на гародзе няма ведама колькі разьвядзецца жукоў, чарвякоў, мошак і матылёў. І ўсе яны будуць грызьці капусту, гуркі, рэпу і іншую гародніну. А шпакі за дзень не адну сотню іх зьядуць.

— Давай, унучак, паставім шпакоўніцу.

Выбраў дзед высокую жардзіну, крэпка прывязаў вяроўкаю, каб вецер ня скінуў, і гаворыць.

— Вось і гатова,—чакай, унучак, гасьцей!

## Як зрабіць шпакоўніцу.

Зрабіць шпакоўніцу ня цяжка. Трэба зьбіць скрыначку ў 45-50 сантымэтраў вышынёю і 20 сантымэтраў шырынёю ў абодвы бакі. Зьверху зрабіць дах з дашчок. На аднэй сьценцы ў 10 сантымэтрах ад верху трэба зрабіць круглую дзірачку ў 5 сантымэтраў у папярочніку. Гэта ляток для шпакоў. Пад летком трэба прымацаваць жардзінку, каб шпак мог сядзець на ёй.

Для шпакоўніцы можна скарыстаць дуплё адпаведнай велічыні. Трэба толькі тады зрабіць дно, дах і лятом.

Шпакоўніцу трэба прывязваць да высокага дрэва або на высокую жардзіну. Прывязваць неабходна крэпкай вяроўкай. Калі прывязваеце да жардзіны—прымацуйце зьверху галінку, каб шпакі маглі на ёй сядзець.

## Ш п а к.

Шпакі прыляцелі. Усе пачалі ставіць шпакоўніцы. А адзін хлопчык зрабіў шпакоўніцу такую размалёваную, што шпакі за яе пабіліся.

А хлопчык стаяў і думаў:

„У другі раз яшчэ лепшую зраблю, зноў шпакі паб‘юцца.“

## Назірайце ў красавіку.

1. Калі рэчкі ачысьцяцца ад лёду?

2. Калі выпадзе апошні сьнег?

3. Калі зьявяцца першыя кветкі? (маць-мачыха, пралеска).

4. Калі зацьвітуць таполі і вязы?

5. Калі ажывуць освы і пчолы?

6. Калі пачнуць квакаць жабы?

7. Калі прыляцяць гусі і жураўлі?

8. Калі закукуе зязюля?

9. Калі пачнуць сяляне выяжджаць у поле?

10. Калі выганяць быдла ў поле?

---

Назіраньні, як і ў сакавіку, запісвайце ў дзеньнік.

## Гусі.

Першыя гусі ужо праляцелі,
Палі на рэчцы, узгорак абселі,
Гвагалі доўга, нараду сабраўшы,
Потым згадзіліся, досьць пакрычаўшы,
Ўзьляцелі высока над полем, над борам
І недзе прапалі ў далёкім прасторы.

# Ластаўка.

Прыляцела ластаўка з-за сіняга мора, села і засьпявала: „Усё перапілі, усё пераелі, пералушчылі! А ніхто такі не пражорлівы, як той пастух: ён і дома жарэ і ў торбу бярэ і ўсё ям мала“.



# Ластаўка-вартаўнік.

У садзе й на дварэ весела: шумяць вераб‘і, крычаць каўкі, квокча чубатка, пішчаць кураняткі.

Раптам закрычала ластаўка, і ўсё зьмянілася. Вераб‘і пахаваліся пад стрэхі і ў кусты. Кураняткі зьбегліся пад крыльлі чубаткі. Стала ціха, ціха. Толькі ластаўка не перастае крычаць, быццам б‘е трывогу.

З-за плоту паказаўся злодзей-каршун. Зоркія вочы драпежніка аглядаюць двор.

Чубатка праразьліва закрычала, быццам пачала зваць на дапамогу. Яшчэ больш крычыць ластаўка, лётае навокал каршуна, усё роўна, як задзяўбаць яго хоча. У гэты час выбеглі з хаты бабулька і ўнучак, загукалі, замахалі на драпежніка. Падняўся каршун і паляцеў ні з чым. А бабулька й кажа ўнучку: „Не чапай, Янка, гнязда ластаўкі,— яна нашых куранят вартуе“.

## Дзіцячы сход.

Юрка і Янка злавілі вераб‘я, прывязалі да ножкі вяроўку і зьдзекваліся над ім. Убачылі гэта таварышы і склікалі сход. На сходзе ўсе даведаліся, што птушкі—вартаўнікі нашых садоў і палёў. Птушкі зьядаюць шкадлівых чарвякоў і вусеняў, якія разводзяцца летам. Птушак трэба абараняць, а ня гнаць і зьдзеквацца над імі. Бяз птушак чарвякі і вусені паелі-б усё, што чалавек пасеяў. Сорамна стала Юрку і Янку. Яны далі абяцаньне заўсёды абараняць птушак. Яны першыя далі згоду зрабіць шпакоўніцу для школьнага саду.

---

Як вы абараняеце птушак?

Ці ёсьць сярод вас яшчэ такія, што ганяюць птушак?

## Бярозка.



Пад вакном маім бярозка
Белая стаіць;
А раса, як смутна сьлёзка,
Так на ёй блішчыць.
Пад вакном маім лісточкі
Зялёныя шэпчуць,
І галіначкі бярозкі
Дрыжаць і трапечуць.

## Нагляданьні над галінкамі дрэў.



Адрэжце па галінцы розных дрэў: каштану, вербы, бярозы, яблыні і інш. Пастаўце іх у бутэльку з вадою і сачэце, як яны будуць распускацца. На бутэльку наклейце паперку і на ёй запісвайце:

1. Якое дрэва—назва яго.
2. Калі вы яго паставілі ў бутэльку?
3. Калі зьявіліся лісьцікі?
4. Калі лісьці разьвярнуліся?
5. Калі зацьвіло дрэва?

## Як вырас клён.

На старым клёне шмат было крылатага насеньня. Падхапіў вецер адно з іх і панёс далёка на вялікую высокую гару. Тут звалілася насеньне ў мяккі мох. Зерняткі вылушчыліся і прарасьлі; яны пусьцілі ў зямлю каранькі, а над зямлёю паказаліся маладыя расточкі. Каранькі ўсё глыбей і глыбей пускаліся ў зямлю, высмактывалі з яе патрэбную ім вільгаць, а маладыя лісточкі цягнулі да сябе паветра й сьвет.

Расьлінка ўсё большала, карані яе станавіліся таўсьцей і даўжэй; вырас тонкі і стройны ствол, каторы штогод станавіўся вышэй і вышэй.

Прашло шмат год. Калі клён вырас і разросься ў вялікае дрэва, прышлі ў лес дрывасекі. Убачылі яны высокі, роўны клён, сьпілавалі дрэва і прадалі яго сталяру. Сталяр парабіў з кавалкаў кляновага дрэва шмат розных рэчаў: лыжкі, судзьдзё, пушачкі, лінейкі і шмат іншага.

## Досьлед.

Задумалі дзеці даведацца, што трэба расьлінам, каб яны расьлі. Узялі яны дзьве часткі фасолі. Адну частку яны намачылі на цэлую ноч. Другую пакінулі сухою. На

другі дзень абедзьве часткі фасолі пасадзілі й падпісалі.



Зямлю ў скрыначцы, дзе была мочаная фасоля, кожны дзень палівалі. Праз некалькі дзён у гэтай скрыначцы паказаліся расткі. У другой скрыначцы, якую не палівалі, нічога ня было. Разрылі зямлю, а фасоля такая-ж самая, як была, калі яе садзілі.

Тады дзеці даведаліся, што расьлінам, каб яны расьлі, патрэбна вада.

---

Даведайцеся, што яшчэ расьлінам патрэбна. Пастаўце скрынку з насеньнем у цёмны куток і сачэце.

## Фасоля (назіраньні).

Намачэце насеньне фасолі альбо бобу, гароху ў вадзе. Потым палажэце на кавалачкі мокрага лямцу ў чарапку і назірайце.



Пісьмова адкажэце:

1. Чым агорнута насеньне?
2. На колькі частак дзеліцца насеньне?
3. Што знаходзіцца паміж долькамі насеньня?
4. Як завуцца часьціны зародка?
5. Нарысуйце насеньне, яго часьціны, зародак і падпішэце.

## Мая рэпа.

### (Дзеньнік дзяўчынкі).

**20 красавіка.** Насеньне рэпы палажыла ў рызінцы ў ваду. Праляжала так ноч.

**21 красавіка.** Раніцаю рызінку з насеньнем пералажыла ў мокрыя апілкі.

**22 красавіка.** Амаль што ўсё насеньне з беленькімі расткамі. Пасадзіла на градцы і паліла.

**23 красавіка.** Холадна й вільготна. Не палівала.

**24 красавіка.** Зноў холадна й вільготна. Не палівала.

**25 красавіка.** Рэпа ўзышла, паказалася зеляніна.

**26 красавіка.** Паказаўся лісьцень. Паліла. Стала цёпла.

**30 красавіка.** Лісьцень стаў большы і мацнейшы. Паліла вельмі мала.

**12 траўня.** Зьявіліся лісткі.

**15 траўня.** Рассадзіла рэпу па бакох грады на 18 сантымэтраў адна ад другой. Паліла.

**17 траўня.** Рассада добра прынялася.

**25 траўня.** Вырвала адну рэпку. Ёсьць ужо маленькі корань з доўгім хвастом.

**1 чэрвеня.** Цёпла. Вырвала рэпку. Корань ужо з гарэх. Лісьці вялікія й цёмна-зялёныя.

**10 чэрвеня.** Вырвала рэпку. Корань вырас з галубова яйка. Больш не палівала.

**25 чэрвеня.** Лісьці шаршавыя, вялікія. Мошак няма. Велічыня рэпы амаль што з курынае яйка. Сама рэпа—жоўтая.

Папрабавала есьці—смачная.

## Гульня ў мак.

Усе, што хочуць гуляць у мак, мераюцца на кійку, а чыёй руцэ ня хопіць узяцца за кіёк, той становіцца ў кола. Тады бяруцца за рукі, ходзяць наўкола і пяюць:

А пасею я мак
Ды на даліне,
А вы, мае макавачкі,
Залатыя галовачкі,
Станьце ў рад,—
Як быў мак.

Пасьля затрымоўваюцца і пытаюцца ў таго, што ў коле:

— Ты араў на мак?

— Араў.

Папытаўшыся, зноў ходзяць наўкола і пяюць тое самае, што і раней.

Скончыўшы, зварочваюцца з пытаньнем:

— Ты скарадзіў на мак?

— Скарадзіў.

Зноў ходзяць і пяюць: „А пасею я мак“... і пытаюцца:

— Ці абышоў мак?

— Абышоў.

Зноў ходзяць і пяюць.

— А ці цьвіў мак?

— Цьвіў.

Зноў пяюць.

— А ці пасьпеў мак?

— Пасьпеў.

Як толькі скажуць „пасьпеў“, дык усе з кола кідаюцца на таго, што стаяў у сярэдзіне, каб схапіць яго за чуб, і крычаць:

„Трасеце мак! Трасеце мак!“ Той, хто быў у коле, уцякае. Пасьля гульня пачынаецца спачатку.

## Пралеска.

Зіма яшчэ ня зусім пакінула зямлю. Яшчэ ляжыць сьнег у лагчынах. Пожні зранку яшчэ бялеюць ад марозу. Але ўжо дзе-ні-дзе зелянее маладзенькая травіца, а па берагох лесу паміж сухога лісьця глянула сваім беленькім вочкам пралеска, падняўшыся на тонкай ножцы ад сваіх зялёных лісточкаў.



Пралеска — самая першая веснавая краска. Яна першая прачынаецца ад зімовага сну і вяшчуе пачатак вясны.

Праз нядоўгі час лес і поле пакрыюцца рознымі краскамі, але гэта першая госьця вясны дае больш прыемнасьці.

---

Назьбірайце пралесак і засушэце.

## Краска.

Краска, мілая мая,
Госьця веснавая!
Як ты хораша цьвіцеш
Тут ў глушы, любая!
З ціхім усьмехам з табой
Вецярок жартуе.
І цябе ў вясёлы дзень
Сонейка цалуе.

## Назірайце ў траўні.

1. Запішэце, калі будзе першая навальніца?
2. Калі будзе град—запішэце.
3. Калі зацьвітуць яблыні?
4. Калі зацьвітуць чарэмха і бэз?
5. Калі зьявяцца майскія жукі?
6. Калі пачулі першы раз салаўя?
7. Калі пачнуць сеяць бульбу?
8. Калі пасеялі авёс, ячмень?
9. Калі выведуцца маленькія каўкі?

## У садзе.

Пашлі дзеці ў сад. Узялі кніжкі і вяроўку. Яны разьбіліся на дзьве групы: садоўнікаў і каморнікаў. Садоўнікі падлічылі дрэвы: яблыні, ігрушы, сьлівы, вішні і аграст.

Каморнікі зьмералі сад удоўж і ўпоперак. Потым назьбіралі красак і сплялі вянкі. Набегаліся, нагуляліся. Весела было. А потым і пачыталі свае кніжкі.

## Мой сад.

Люблю мой сад, як расьцьвітае,
Як салавей свой сьпеў вядзе,
Як цьвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.



## Пчолка.

Толькі наступіла
Пара веснавая,—
Вылецела ў поле
Пчолка залатая.

Ёй за шчырай працай
Весела і шчасна;
Тут красуе верба,
Сонца сьвеціць ясна.
Лётае па красках
Пчолка залатая,
Кветачкі цалуе
І мядок зьбірае.
Назьбірала пчолка
Пылку і мядочку;
Ім накорміць дзетак
У сваім дамочку...
У вульлі шумліва:
Праца там кіпела.
К родненькай сямейцы
Пчолка прыляцела.

---

У каго з вас дома ёсьць пчолы? Раскажэце, як яны жывуць.

Зрабеце маленькую пасеку.



# Жабкі.

Аднаго разу дзеці прышлі да сажалкі і ўбачылі каля берагу многа чорненькіх з галавой і хвосьцікам галачак.

— Юрка, Яся гаворыць, што гэта жабкі. Хіба-ж гэтыя галачкі падобны да жабак?

— Але, гэта апалонікі, будучыя жабкі. Давай пасадзім іх у слоік і паглядзім, што з іх будзе. Так і зрабілі. Слоік з вадою і апалонікамі паставілі на акно ў цень. Ваду кожны дзень мянялі. Праз некалькі дзён у апалонікаў зьявіліся заднія лапкі, а потым пярэднія.

Праз некалькі дзён і хвост прапаў.

Выпусьцілі жабак зноў у сажалку. А яны павыскоквалі з вады і паселі на траве.

---

**Заданьне.** Пастаўце і вы ікры ў слоік і назірайце.



## Авечак стрыгуць.

Вось прышла пара авечак стрыгчы. Загналі іх у рэчку, каб воўна на іх вымылася і была чыстай. Далі авечкам высахнуць на цёплым веснавым сонейку. А на дварэ іх ужо чакаюць. Вось загналі ўсіх авечак на двор і пачалі лавіць. Зловяць авечку, зьвяжуць ёй ногі, паваляць на зямлю, сядуць каля яе й пачынаюць стрыгчы з яе цёплую, мяккую воўну. Усю воўну састрыгуць, і робіцца авечка голая. А калі не састрыгчы шэрсьць, то ўсё роўна летам яна павылазіць і да зімы зноў вырасьце новая.

Воўну вымыюць, высушаць. Потым з яе напрадуць нітак, а з нітак зьвяжуць панчохі і рукавіцы. З гэтых-жа самых нітак на кроснах выткуць сукно на цёплае адзеньне.

---

Чаму вясною поўсьць у жывёл вылазіць?

Напішэце, як у вас дома стрыглі авечак.

## Сьвітаньне.

Скрозь туман праглядае сьвітаньне.
Вецер цёплы павеяў з палёў;
Пеўня з далі пачулась сьпяваньне
І гамонка і крык вераб'ёў.
Шпак заліўся у садзе спрасонку,
Ён нястройна пакуль што пяе,
Але правіцца голас, і звонка
Гымны стане сьпяваць ён свае.
Ўсё чакае усходняга сонца,
Лічыць шчасьцем, каб першым сустрэць,
І магучую песьню бяз конца
Пад гарачаю ласкаю пець.

## Выганяюць стада.

Золак толькі што заняўся. Раніца была ціхая й цёплая. Неба чыстае й яснае, ніводнай хмаркі.

Вышаў пастух на край вёскі і затрубіў у трубу.

Пратрубіў тры разы. Потым павольна пашоў па вуліцы вёскі. Разам з ім ішоў яго памоцнік—хлопчык. Яшчэ толькі дашоў ён да сярэдзіны вёскі, а ўжо з усіх бакоў заскрыпелі брамы, замычалі каровы, забляялі авечкі—гаспадыні іх выганяюць.

Паказалася сонца з-за лесу і пазалаціла вярхушкі хат. К калодзежу, дзе зьбіралася стада, сьпяшаліся прыгнаць скаціну гаспадыні.

Стада ўжо сабралася. Пастухі распусьцілі свае даўгія пугі і пагналі яго на пашу.



## Пастушок.

Сонца толькі што ўзышло,
Шле наўкол сваё сьвятло.
Вышаў з хаты пастушок

І зайграў ён у ражок.
Пастушок: „Ту-гу, ту-гу!..
Добра будзе на лугу
Майму стадку пагуляць,
Роснай траўкі пашчыпаць“.
І кароўкі ўміг яму
Адказалі: „Му-му-му!
Будзем цэлы дзень гуляць,
Траўку, красачкі шчыпаць.
Каб спачыць нам у цяньку,
Пабываем і ў гайку.
Там крыніца б‘е струёй;
Будзем піць вадзіцу ў ёй.
А як прыдзе ў полі змрок,
Сонца зьнікне за лясок,
Зноў у вёску вечарком
Прыдзем з смачным малачком“.

**Пытаньні:**

1. Колькі кароў, цялят, быкоў і авец у стадку вашай вёскі.

2. Нарысуй, як пастушок пасе стадка.



## Песьня маладога аратага.

Золак зьзяе. Ціха ў полі.
У небе чутны дзіўны хор.
Я з вясёлай песьняй волі
Выяжджаю на прастор.
Раньніх птушак прывітаньне,
Песьні, працу і зямлю
І вясеньнее сьвітаньне
Як-жа моцна я люблю!
Малады і здольнасьць маю,
Сілы, гарту ў мяне шмат;

Для карысьці свайго краю
Працаваць заўсёды рад.
Я пяшчаныя загоны
Добра, тлуста угнаю;
Ўзыйдуць добрыя тут плёны,
Як старанна абраблю.
Гэй, мой конік, на разлогі!
Варушыся хутка, брат;
Нашы новыя нарогі
Зробяць ў полі добры лад.

## Попел.

Дзядзька Рыгор выкапаў пад паветкай ямку.

— Навошта яна? Яшчэ ўвалішся ў яе,— сказаў Міколка.

— А ты глядзі, не валіся,—толькі й сказаў дзядзька Рыгор.

Цяпер кожную раніцу бабы, як толькі выграбуць попел з печы, дык і нясуць яго ў гэтую яму.

— Вось яшчэ,—казаў Міколка,—сыпалі-б у гной, навошта яго зьбіраць?

— Не, унучак,—кажа бабулька,—попел з гноем не мяшаюць, трэба, каб ён быў сухі.

— А навошта ён, такое дабро, патрэбен?—засьмяяўся Міколка.

— Ад яго вялікая карысьць,—дадала бабулька.—Попелам можна зямлю ўгнаіць, а тады й авёс і бульба будуць радзіцца лепей.

---

Чым яшчэ ўгнойваюць зямлю? Як гэта робяць?

Навошта трэба ўгнойваць зямлю?

## Чым мы арэм.

Раней людзі ня мелі плуга. Зямлю яны ўскапвалі сукаватай палкай і сеялі рознае насеньне.



Працаваць было цяжка, а ўраджаі малыя.

Тады людзі дадумаліся да сахі.

Стала лягчэй, бо ў саху можна запрагаць валы або коні. Але саха не падразае карэньне зельля і дрэнна адварачвае скібы.





І людзі дадумаліся да плуга. Плуг—сын сахі. Ён і падобен да яе, але ў рабоце куды ляпей сваёй маткі.



Плугам і канём пахаць няспорна й цяжка. І людзі дадумаліся да трактараў, якія працуюць машынаю.

## Сельска-гаспадарчыя прылады.













### Заданьні:

1. Зрабеце ўзоры сукаватай палкі, сахі і плуга.
2. Зрабеце маленькія барану, рыдлёўку, вілы і граблі. Матэрыял—дрэва і бляха.



## Як я скародзіў.

### (Апавяданьне хлопчыка).

Дзед, сястра і я паехалі ў поле. Дзед пачаў сеяць. Сястра і я—скародзіць. Конь у мяне не хацеў ісьці. Узяў я глыбку зямлі і ўдарыў каня. Даехаў я да дзеда, а ён мне і кажа: „Ты за што каня каменем б‘еш?“. Я адказаў: „Я ня каменем, а зямлёю“. Адабраў у мяне дзед плуг і гавора: „Мы і без цябе заскародзім, ідзі дамоў“. Крыўдна мне стала, што мяне праганяюць з работы. Узяў я лейцы ў рукі, заплакаў і паехаў скародзіць. З таго часу я ўжо больш ня б‘ю коняй.

**З а д а ч ы:**

1. Якая зямля добрая, якая дрэнная? Як вы пазнаеце?

2. Зрабеце збор узораў зямлі—чорназёмнай, пясчанай і гліністай.

3. Як з дрэннай зямлі зрабіць добрую?

---

**Прыказка:** У каго жыжа цячэ з двара, у таго дурная галава.



## Морква.

— Мама, ці хутка будзем моркву садзіць? папытаўся Янка.

— Моркву, дзіцятка, ня садзяць, а сеюць.

— Морквачкі, мама, больш пасей!

Вось ускапалі грады, пасеялі моркву, рэпу. Дае маці і Янку насеньне.

— Гэта, мама, шэрыя казяўкі. Яны не павыпаўзаюць, калі іх абгарнуць зямлёй?

— Павыпаўзаюць, сынок, сей!

Пасеяў Янка казявак, а маці прысыпала іх зямлёю. Зусім забыўся Янка аб сваіх казяўках, а з іх на градзе вырасла многа, многа зялёненькіх націнак-лісткоў. Побач з

імі вырасла й зельле. Як убачыў Янка сваю зялёненькую градку, давай тады палоць. Асьцярожна вырываў зельле, а морквы не чапаў: няхай ёй будзе прастарней. Няхай яе вырасьце многа, многа!

**Заданьні:**

1. Абмерце свой гарод і нарысуйце яго плян.

2. Зрабеце збор узораў рознага насеньня гародніны.

## Як садзіць гародніну.

На градах звычайна садзяць разам: 1) моркву і буракі; 2) гуркі, цыбулю і гарбузы; 3) фасолю, гарох і боб; 4) капусту, рэпу, рэдзьку і бручку. Мак сеецца паміж радамі іншых расьлін.

Сеюцца расьліны на такой адлегласьці:

| РАСЬЛІНЫ. | Адлегласьць насеньня ад насеньня | Адлегласьць паміж радамі | Высаджваецца на адзін квадратовы мэтр. |
|---|---|---|---|
| | у сантымэтрах. | | (прыблізна). |
| Бручка . . . . | 22 | 54 | 8 штук |
| Капуста . . . . | 69 | 44 | 4 „ |
| Рэпа . . . . . | 22 | 9 | 45 „ |
| Рэдзька . . . . | 9 | 35 | 30 „ |
| Буракі . . . . | 18 | 44 | 13 „ |
| Цыбуля (насеньне) | 18 | 18 | 33 „ |
| Фасоля . . . . | 9 | 35 | 30 „ |
| Гуркі . . . . . | 22 | 35 | 12 „ |
| Бульба . . . . | 53 | 49 | 4 „ |

# Комуна.

Дрэнна жылося Парфіру. Сам ужо не малады, жонка памерла, а двое малых дзяцей пры ім: Юрка і Агатка.

Гаспадарка малая—тры дзесяціны зямлі, а ні каня, ні плуга няма.

Надумаўся Парфір прасіць комуну, дзе раней быў панскі фольварак, каб прыняла яго да сябе.

Узяў дзяцей і пашоў.

Перад домам гуляюць дзеці, а сяляне за сталом абедаюць. Пасадзілі і Парфіра з дзецьмі за стол.

— Мы разам ямо і разам працуем. Хлеб і скаціну ня дзелім. Кожны дапамагае ўсім і ўсе аднаму,—сказаў адзін селянін.

— Цяжка мне жыць аднаму,—сказаў Парфір,—прымеце мяне ў вашу комуну. Я таксама буду працаваць на агульную карысьць.

У комуне згадзіліся.

У Юркі ня было ботаў. Кашуля была брудная і парваная.

Далі Юрку боты, кашулю і нагавіцы, а увосень паслалі вучыцца ў школу.

Пасьля Юрка пытаецца ў бацькі:

— Тата, а чаму ў школе нас комунаю завуць?

Парфір адказаў:

— Затым, што мы разам працуем і дапамагаем адзін другому, як браты.

## Вясна.

І зелень, і кветкі, і песьні,
І неба вясёлая яснасьць...
Ні цьмы тэй, ні сьнегавай плесьні,—
Дзе глянеш—адна, братка, шчаснасьць!

Прачнуліся нівы і хаты—
Уся ў полі людзкая сямейка:
За сошкай шнуруе араты,
Ля статку іграе жалейка;

З сяўнёю сявец пахаджае,
На скібіны валіцца зерне.
Знаць сіла ў сяўца не малая...
Захоча—і сьвет пераверне!

Гэй, гэй, хлебаробе мазольны,
Пан сошкі, і коскі, і поля!
Кінь выгляд сьлязьлівы, нявольны—
Ў тваіх руках слава і доля!

# Хто што сее.

Варочаліся бацька з сынам з поля, дзе бацька сеяў жыта. Сын запытаўся ў бацькі:

— Я ведаю, што жыта сеюць людзі, але хто сее дрэвы ў лесе і траву ў полі?

Тымчасам вецер нёс шмат лёгкіх белых пушкоў. Бацька злавіў адзін пушок, паказаў сыну і кажа:

— Бачыш, за гэты пушок трымаецца насеньне. Вецер разам з пушком падымае і насеньне, разносіць па сьвету і сее ўсюды.

Сын падумаў: „Вецер—сявец“.

Ідуць яны далей, бачаць, птушка дзяўбе ягаду. Бацька зьвярнуў на гэта ўвагу сына.

— У ягадах ёсьць зерняткі, і птушкі з ягадамі разносяць у розныя бакі насеньне. „Птушкі таксама сяўцы“, падумаў хлопчык.

Ідуць далей, глядзяць—ручай, а ў ручаі плывуць зерняткі з крылейкамі, некаторыя з іх прысталі ўжо да берагу. „І вада—сявец“, падумаў хлопчык.

Убачыў хлопчык, што да яго вопраткі прычапілася кручкамі нейкае насеньне. Пачаў ён аддзіраць яго і кідаць на зямлю, а бацька яму кажа:

— Глядзі, ты таксама сееш нейкую расьліну.

— І ў нашага сабакі Ваўчка пачапіліся ў хвост дзяды, і ён разьнясе насеньне. Дык і наш Ваўчок—сявец,—сказаў здаволены хлопчык.

## Жыта.

Пасеяў селянін жыта ў полі.

На вясну пакрылася поле густой мяккай травіцай. Пашоў гаспадар у поле пабачыць густую рунь, глядзіць і цешыцца—добрая рунь.

Прашло некалькі часу, руні ўжо няма. На яе месцы паднялася высокая зялёная салома.

Ізноў цешыць сябе селянін, што дачакае добрага ўраджаю. А салома цягнецца ўсё вышэй, становіцца ўсё прыгажэй і прыгажэй.

Праз некаторы час яшчэ прыгажэй стала салома—блішчыць, як золата на сонцы. Толькі цяжкія буйныя каласы прыгінаюць яе да зямлі.

Зжаў селянін збажыну і абмалаціў. Зерне сабраў і палажыў у сьвіран, а салому згроб у кучу. Зерне пашло на хлеб і сяўбу, а салома на падсьцілку скаціне.

## Веснавыя хмаркі.

Сінім стэпам-даліною
Ходзяць хмаркі веснавыя,
Сакавітыя, густыя,
Чарадою-грамадою.
Як маланка узаўецца,
Блісьне стужкай агнявістай,
І як песьняй галасістай
Вам зямелька адгукнецца.
Ліне дожджык, даль закрые
Белай сеткай срэбратканай,
Цёплы дожджык і жаданы
Ўсё аджывіць, ўсё абмые.
А зачуўшы голас грому,
Селянін з сахой на ніве
Усьміхнецца вам шчасьліва,
Стаўшы важна, нярухома.
Бо ваш гром для вёскі сына
Лепша музыка на сьвеце...
Ой, вы, хмаркі, сонца дзеці,
Не паўкрыўдзьце селяніна!

#Назіраньні над дажджом.

1. З якіх хмар ідзе дождж?
2. Ці нізка, ці высока стаяць хмары, калі йдзе дождж?
3. Якую карысьць прыносіць дождж?
4. Калі летам дождж непатрэбен?
5. Ці бачылі вы вясёлку пасьля дажджу?
6. Колькі колераў у вясёлцы? Нарысуй вясёлку.
7. Адчаго бывае вясёлка?



**„Вось дык дождж!“**

## Дождж.

Хмары неба апранулі,
Даль закрылася імглой,
Ось загуў дождж ў аддаленьні,
Вецер дружна праляцеў.
Закачаўся да карэньня
Лес і глуха зашумеў.
Як жывое срэбра, важка
З хмар пярэдніх дождж упаў,
За маланкай сьледам цяжка
Гром страшэнны загучаў.
І здавалась, ня стрымала
Хмара ценжару грамоў,
Раптам ставы разарвала,
Быццам рэчка лёд ўзламала
І пабегла з берагоў.

## Крынічная вада.

Бегалі хлопцы за вёскаю ў полі. Аднаму з хлопцаў, які больш за ўсіх бегаў на полі, надта захацелася піць. Успомніў ён, што тут недалёка ёсьць крыніца сьцюдзёнае вады, і, выціраючы пот рукавом, пабег бар-

джэй да крыніцы. Напіўся вады і лёг пад дрэвам супачыць, аж пачуў, што яму неяк у бок закалола. Ледзь ён дадому дацягнуўся і лёг,—дык тры тыдні прахварэў. Як паздаравеў крыху, дык і пачаў жаліцца матцы:

— Гэта я праз крынічную ваду захварэў: каб ведаў, што мне так нядобра будзе,— ня піў-бы яе.

— Не вада тут вінавата, сынок,—сказала матка,—а твая неасьцярожнасьць—ніколі ня трэба ўгрэўшыся піць сьцюдзёную ваду.

---

Як вы ахоўваеце сваё здароўе летам?

## Скарыстайце сонечныя дні.

Сонца робіць на здароўе чалавека добры ўплыў.

Сонцам карыстаюцца для лячэньня пры розных хваробах, галоўным чынам, пры малакроўі і слабасьці.

Лячэньне сонцам завецца—лячэньнем „сонечнымі ваннамі“.

Летні час трэба скарыстаць, каб узмацніць сваё здароўе. Калі пасеш статак, альбо дапамагаеш баранаваць поле—пакрый галаву хусткай і працуй без кашулі.( Галаву абавязкова трэба пакрываць, каб не зрабіўся сонечны ўдар).



## На полі ўвясну.

Люблю я прывольле
Шырокіх палёў,
Зялёнае мора
Буйных каласоў,
І йгрушы старыя,
Што ў жыце шумяць,
Зялёныя межы,
Далёкую гладзь.
Люблю пазіраць я
На поле вясной,
Як ветрык жартліва
Плыве збажыной;
Калышацца жыта,
Радамі бяжыць,
Плыве бязустанку
І ціха шуміць.




## Першае мая.

Вітайце дзень Першага мая,
Працоўнай сям'і ўсе народы,
І хваляй ад краю да краю
Хай песьня нясецца свабоды.
Вітайце ўсе новае сьвята,
Хто жыў у пакуце, ў няволі,
Хто плакаў, стагнаў ад нядолі,—
Крыж цяжкі у дзень гэты зьняты!

**Першае мая—міжнароднае сьвята ўсіх працоўных.**

## Першае мая.

1. Як вы будзеце сьвяткаваць сьвята Першага мая? Ці пойдзеце вы з музыкай па вуліцах? Ці ёсьць у вас плян, як сьвяткаваць?

2. Які сьцяг вы сабе зробіце? Што вы напішаце на ім?

3. Якія вершы вы вывучылі к сьвяту? Якія песьні вы будзеце пяяць Першага мая? Ці ўсе ведаюць словы песьні і ці дружна сьпяваеце?

4. Як вы прыбярыцё сваю клясу к Першаму мая?

5. Як будзе ўся школа сьвяткаваць дзень Першага мая?

6. Які ўдзел вы прымеце ў гэтым сьвяце?

## Сьвята Першага мая.

Першае мая—сьвята рабочых усяго сьвету. Сьвяткуюць яго ня толькі ў нас, але і ў Польшчы, і ў Нямеччыне, і ў Амэрыцы.

Больш трыццаці год таму назад у рабочых быў зьезд, на якім яны ўхвалілі

сьвяткаваць дзень Першага мая. І ўсе рабочыя ў гэты дзень выходзяць на вуліцы з чырвонымі сьцягамі і сьпяваюць рэвалюцыйныя сьпевы.

Мы паноў прагналі. Улада ў нас Савецкая, і мы Першае мая сьвяткуем вольна, урачыста.

Там, дзе Савецкай улады няма, паны з самай раніцы пасылаюць на вуліцы салдат, каб яны разганялі рабочых. Кожны год Першага мая бываюць параненыя і забітыя рабочыя.

Паны баяцца, каб рабочыя не аб'ядналіся і ня скінулі паноў.

Разам са сваімі бацькамі ў нас сьвяткуюць і дзеці.

Яны выходзяць таксама з сваімі сьцягамі, песьнямі, музыкай. Бадзёра льлюцца піонэрскія песьні, грае музыка, сьвеціць сонца, усе радуюцца. І ўсе думаюць аб тым, як памагчы сваім братом рабочым, якія яшчэ прыгнечаны панамі.

Скора настане такі дзень, калі рабочыя прагоняць паноў на ўсім сьвеце, усюды будзе Савецкая ўлада, і ўсе рабочыя са сваімі дзяцьмі вольна і ўрачыста будуць сьвяткаваць дзень Першага мая.

## Міжнародны гымн.

Паўстань праклятцьцем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум ўзбунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг!
Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім,
І сьвет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым—той будзе ўсім!
        Гэта бой наш астатні
        За працоўны народ,
        Каб ў злучнасьці братняй
        Узьняўся людзкі род.
Ніхто ня дасьць самохаць волі—
Ні бог, ні цар, ні багатыр,
Даб'емся самі лепшай долі...
Дабро для ўсіх наш правадыр!
Каб ня згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас—
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузьні жар ня згас!
        Гэта бой наш астатні
        За працоўны народ,
        Каб ў злучнасьці братняй
        Узьняўся людзкі род.
Мы ўсе работнікі, сяляне—
Сусьветны рой працаўнікоў—
Мець будзем на зямлі ўладаньне,
А дармаеда прэч! далоў!

Жывіцца целам нашым годзе
Усім трутнём і груганом!
Для нас паўстаўшых сонца ўсходзе,
Сьвяціць нам будзе век-вяком!
Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб ў злучнасьці братняй
Узьняўся людзкі род.




## Гымн працы.

Асьвятліў родны край
Волі сьветлай прамень—
І узьняўся наш люд,
Прывітае свой дзень.
Цяжар путаў ліхіх
Ужо згінуў навек;

У будынак сьвятла
Увашоў чалавек.
Працаўнік-беларус!
Прад табой вольны шлях:
Сабяры-ж усю моц—
І будуй новы гмах!
Гэй, за працу хутчэй,
Ў поле ўсе—як адзін!
Беларус ад вякоў
Цяжкай працы быў сын.
Працы дружнай сям'ёй
Мы пяём гымн-прывет,
І да працы сьвятой
Будзем зваць цэлы сьвет!

## Янка—Чырвоная Зорка.

### I.

Дружным строем з песьняй прышлі дзецi на экскурсію ў другі піонэрскі атрад.



Маленькія рухавыя дзеці. Іх спаткаў піонэр, павадыр зьвяна. Сказаў некалькі слоў настаўніцы і павёў за сабою.

Гурбой, весела ўбеглі дзеці ў клюб. Вочы дзяцей заіскрыліся, наліліся цікавасьцю. Піонэр сабраў дзяцей каля сябе ў гурток, пачаў знаёміць з працай піонэраў.

— Вось наш куток Леніна. Гэта—агульны, усяго атраду.

Прыгожы выгляд меў гэты невялічкі куточак Леніна! Зьлева портрэты Ільліча, калі ён быў малым. Портрэты яго бацькі, маткі, братоў, сясьцёр. Пасярэдзіне, крышку вышэй, Ленін, як ён рабіў і кіраваў рэволюцыяй, і далей малюнкі провадаў вялікага правадыра ў магілу. І яшчэ многа розных малюнкаў пра Леніна і другіх правадыроў рэволюцыі. Тут-жа на століку ляжаць кніжкі аб Леніне для дзяцей.

— А ведаеце, калі сьвяткуюць працоўныя дзень сьмерці Леніна?—пытае піонэр.

— 21 студзеня!—хорам зьвініць адказ.

— Ведаеце,—прагаварыў з радаснай ухмылкай на твары хлопчык з чырвоным гальштукам на шыі і павёў да другога кутка.

— А вось куток Чырвонага лётчыка. Самі зрабілі аэроплян.

Дзеці з захапленьнем разглядаюць малюнкі, прылады, зробленыя самімі піонэрамі.

З вялікай увагай сачыў за ўсім Янка, нізенькі, тоўсьценькі хлопчык. Ён ускінуў свае чорненькія вочкі на піонэра. „Такі самы як я, а бойкі, колькі ведае!“ міжвольна мільганула думка ў галоўцы.

— Таварыш! а грошы вам плацяць за тое, што вы піонэр?—неяк адважыўся, запытаў Янка.

Нахмурыў бровы піонэр, у вачох заіскрыўся аганёк.

— Я пашоў у піонэры, каб навучыцца працаваць у гурце такіх дзяцей, як і я сам. Па вуліцы бегаючы, нічога не навучышся. Калі мне будзе 15 год, я перайду ў Комсамол, буду будаваць новае жыцьцё,—горача скончыў ён.

Доўга разглядвалі дзеці клюб піонэраў. Пасьля падзякавалі за шчыры прыём і дружна, строем вярнуліся ў школу.

## II.

Глыбока запалі ў галаву Янку словы піонэра. Яму пачало здавацца, што ён ужо піонэр з чырвоным гальштукам. Многа, многа ў яго сяброў. Весела. Дома бацька гладзіць з ласкай па галоўцы, хваліць: „Маладзец, Янка, будзеш некалі чалавекам“. Быццам суседнія дзеці глядзяць на яго, паказваюць пальцамі—„вунь пашоў Янка-піонэр“. Ім таксама хочацца быць піонэрамі. Эх, слаўна!

На другі дзень, як толькі настаўніца ўвашла ў клясу, Янка кінуўся да яе.

— Ніна Васільлеўна, запішэце мяне ў піонэры!

— Хіба-ж я павадыр атраду? Засьмяялася настаўніца. Трэба пайсьці ў атрад і папрасіць, каб цябе залічылі піонэрам,—параіла Ніна Васільлеўна.

— Пайду, пайду, пайду...—падскокваючы пабег садзіцца на скамейку Янка.

Кончыліся заняткі: Янка важна шагаў у атрад. Адшукаў павадыра і зьвярнуўся да яго:

— Я хачу быць... стаць піонэрам.

Павадыр спытаў, колькі яму год, дзе ён вучыцца, чым займаецца яго бацька і сказаў, што трэба заяву пісаць.

Пагасьціўшы з гадзіну між піонэраў, Янка вярнуўся дамоў.

Чым больш ён думаў аб піонэрах, глядзеў на іх працу, тым мацней яму хацелася стаць піонэрам.

## III.

— Ніна Васільлеўна, паглядзеце, ці добра будзе наша заява ў атрад? запыталіся—Янка і яго сябар Юрка.

Юрка таксама зацікавіўся піонэрамі і хацеў запісацца ў атрад.

Заява была напісана няроўнымі вялікімі літарамі.

**Заява павадыру.**

Я, Янка Кісялёў і Юрка Асіна просім залічыць нас піонэрамі.

**Чацьвер, 24 верасьня 1924 г.**

— Малайцы, добра,—сказала настаўніца і аддала ім паперку.

А Янка і Юрка хутчэй пабеглі ў атрад. Янка, а пасьля і Юрка былі запісаны ў атрад Чырвоных Зорак.

## IV.

Раней дзеці ня любілі Янку. Вельмі-ж благі быў хлапец. То за сукенку хваціць, то мелам вымажа, то вадою апырскае.

А як стаў Чырвонаю Зоркаю, зусім пачаў зьмяняцца. Да заняткаў адносіцца ўважна, на пераменках ня дурэе. Часта апавядае, што робяць Чырвоныя Зоркі і піонэры ў клюбе, паказвае малюнкі, якія сам намаляваў.

На сьцяне, каля сваёй скамейкі, Янка прыклеіў плякат:

„Піонэр—прыклад для другіх дзяцей“.

І ня раз здавалася Янку, што Ільліч, прыплюшчыўшы вока, глядзіць са сьцяны на гэты плякат і вельмі задаволен ім.

**Зьмена зьмену рыхтуе сабе:**
**Піонэр—Комсамол—КПБ.**

# Хто такія Чырвоныя Зоркі.

## Законы Чырвоных Зорак.

1. Чырвоныя Зоркі памагаюць піонэрам, комсамольцам, комуністым, рабочым і сялянам.

2. Чырвоныя Зоркі імкнуцца стаць юнымі піонэрамі.

## Звычаі Чырвоных Зорак.

1. Чырвоныя Зоркі сачаць за чыстатою свайго цела і адзеньня.

2. Чырвоныя Зоркі любяць працаваць.

## Дэвіз Чырвоных Зорак (і піонэраў).

„Да змаганьня за справу працоўных будзь гатоў!“

Адказ: „Заўжды гатоў!“

## Асноўны лёзунг:

„Зьмена зьмене йдзе“.

## Значок Чырвоных Зорак.

Заместа чырвонага гальштука і значка, як у піонэраў, Чырвоныя Зоркі носяць нашытую на кашулю на левым баку грудзей чырвоную зорку.

## Салют Чырвоных Зорак (і піонэраў).

Пяць пальцаў правай рукі цесна складваюцца і падымаюцца вышэй галавы. Пяць пальцаў—пяць часьцін сьвету, дзе ёсьць прыгнечаныя, за вызваленьне якіх змагаюцца

піонэры; вышэй галавы таму, што інтарэсы пролетарыяту для піонэраў вышэй, чымся свае ўласныя інтарэсы.

### Заданьні:

1. Напішэце на вялікім аркушы паперы законы і звычаі Чырвоных Зорак і павесьце ў клясе на сьцяне.

2. Хто ў вас у клясе Чырвоныя Зоркі? Напішэце іх сьпіс.

3. Даведайцеся ў атрадзе, чым там займаюцца Чырвоныя Зоркі.

## Чырвоны сьцяг.

Мы падымем сьцяг чырвоны
Вышай сьнежных белых гор.
Хай ўсе знаюць, няхай знаюць,
Што дэвіз наш: „будзь гатоў!“

Над Савецкаю старонкай
Вецер кліч наш разьнясе;
І пачуюць браты нашы,
Нас пачуе увесь сьвет!

З-за далёкіх гор і мораў
Ад пустыні, ад лясоў
Адусюль тады адказ
Загудзіць: „Заўжды гатоў!“



# VI. ЛЕТА.

## Лета.

Звоніць поле доляй, воляй,
Звоніць поле ў каласкі;
Ў буйным лузе зьзяюць, граюць
Краскі, мошкі, матылькі.
Рэчка ўецца ды сьмяецца
Да зялёных лоз і вольх,
А ў вадзіцы шыбка рыбка
Шмыгаціць на паплаўкох.

## Назірайце ў чэрвені.

1. Калі адцьвіў бэз?

2. Вядзеце каляндар пагоды, колькі было ясных, хмарных і дажджлівых дзён? Запісвайце, калі будуць бура, навальніца, град.

3. Калі зацьвіла ліпа?

4. Калі зацьвіла маліна?

5. Калі зацьвілі васількі ў жыце?

6. Калі зацьвіло жыта?

7. Калі з апалонікаў зробяцца жабкі?

8. Калі выведуцца маленькія вераб'і?

9. Калі выведуцца ластаўкі?

10. Калі пачнуць лётаць маладыя галкі, шпакі, вароны і грачы?

---

Свае назіраньні запісвайце ў дзеньнік.

## Перад бураю.

Сонца зранку жарам пыша,
Ветрык лісьце чуць калыша,
Вее чуць паўзьверх зямлі.
Лес і поле з збажыною,
Апавітыя смугою,
Задуменныя стаяць.
І сярод цішы трывожнай
Ціха неяк ды пужліва
Сталі хмаркі вынікаць.
Шырыць сонца клуб іх белы
І маланак громаў стрэлы

Ім на страх зямлі куе.
А зямля як-бы замлела,
Нават дуб стары нясьмела
Зрэдка лісьцем павядзе.
Змоўклі ўсе вакруг абшары,
Бо замысьлілі штось хмары...
Ой, знаць бура загудзе!

## Ніва (народная).

Мілая нам ніва, будзь ты урадліва!
Урадзі нам хлеба і што болей трэба.
Урадзі нам жыта бяз жорсткай мякіны,
Урадзі пшаніцы, выкі, канюшыны.
Урадзі нам лёну на кашулю чысту
І траву зялёну, бульбу караністу!

## Раніцаю.

Выглянула з-за лесу яснае сонейка і паслала ўсюды свае залатыя касулькі будзіць зямлю.

Праляцела першая касулька і трапіла на жаўранка. Затрапятаўся той, вылецеў з гнязьдзечка, высака-высака шугануў пад нябёсы і запяяў сваю серабрыстую песьню.

Другая касулька трапіла на зайчыка. Зайчык працёр лапкамі заспаныя вочкі і вясёла паскакаў па сенажаці. Пабег ён шукаць сабе сьвежае травіцы на сьнеданьне.

Трэцяя касулька прыляцела ў катух. Певень залапатаў крыльлямі і запяяў:

кукарэ-ку! Куры пазьлятали з седала і пабеглі на двор капацца ў сьмецьці ды шукаць чарвякоў.

Чацьвертая касулька трапіла ў вулей. Выпаўзла пчала, села пры ваконцы, а пасьля расставіла крыльле і паляцела зьбіраць мядок з пахучых кветак.

А пятая касулька прыляцела ў хату. Усе паўставалі і старыя, і маладыя і да працы пашлі.



## Раніца ў горадзе.

Рана-рана раніцою чуваць выцьцё:
У-у-у-у!

З усіх канцоў перагукваюцца розныя галасы тонкія й тоўстыя:
У-ую-у-ю!

Гэта гудкі фабрык, гарбарань, гут, лесапілак і іншых.

Яны гудуць і равуць,
На работу завуць.

Пацягнуліся рабочыя ў чорных і сініх блузах на працу. Сьпяшаюцца, нахаду зашпіляюцца, жартуюць.

— Гэй, Мікола, ты чаго вочы плюшчыш? Напэўна, належных гадзін не даспаў!

— Нічога, у абед на сушыльню пойдзем і разам высьпімся.

Адусюль з усіх завулкаў і двароў ідуць гурткамі рабочыя.

Завод ужо пачаў сваё жыцьцё: закруціліся колы, запяялі пасы.



## На начлезе.

Улетку выганяюць коні на нач у поле пакарміцца. Днём мухі і авадні не даюць ім пакою, ды й працаваць трэба. Увечары выганяюць і прыводзяць толькі раніцою.

Вадзіць на начлег коні для сялянскіх дзяцей, асабліва для хлопчыкаў, вялікае сьвята. Пасьля вячэры зьбіраецца ўся вёска разам весьці коні. У парваных старых сьвітках, часта бяз шапак, садзяцца хлопцы на самых бойкіх сваіх каняк і з шумам, з вясёлым крыкам і гіканьнем выяжджаюць з вёскі.

Прыедуць на месца, папутаюць коні, а самі зьбяруцца ўсе разам, разьвядуць вогнішча—тут яшчэ весялей. Гавораць казкі, апавяданьні, пяюць песьні. Спаць—толькі прылягуць, а там ужо й золак зьзяе, трэба ехаць дахаты.

## Назірайце ў ліпені і ў жніўні.

1. Вядзеце каляндар пагоды.
2. Калі зацьвіў авёс?
3. Калі зацьвіце рабіна?
4. Калі пачырванее рабіна?
5. Калі перастане кукаваць зязюля?
6. Калі перастане сьпяваць салавей?
7. Калі пачнуць лятаць каля хат гурткі доўгахвостых сініц?
8. Калі пасьпелі суніцы і чарніцы?
9. Калі пачалі жаць авёс, ячмень і жыта?
10. Калі пачалі касіць?
11. Калі вы першы раз елі новую бульбу?
12. Калі пасьпелі яблыкі?



# Піонэры ў вёску.

Была ўжо цёплая вясна. Піонэры пераяжджаюць у вёску. Дзеці складаюць насьценныя газэты, захоўваюць іх, каб ня згубіліся. Бегаюць, мітусяцца, як заўсёды перад выбарамі ў дарогу.

Раніцою назаўтра паехалі.

Песьні.

Радасьць, шчырая радасьць вясны спавівала дзяцей атраду. Дарога невялічкая. Ніхто не змарыўся, усе былі вясёлыя, шчасьлівыя. Ехалі організована, зьвяно за зьвяном.

Пасьля полудня прыехалі.

У вёску піонэры ўвашлі, пастроіўшыся пад барабанны бой.

Зьдзіўлена й радасна глядзелі на іх вясковыя дзеці.

Астанавіліся.

Павадыр атраду ўзьлез на калёсы і пачаў гаварыць.

Абступілі яго дзеці ўсёй вёскі.

— Таварышы!—пачаў павадыр,—мы будзем жыць тут праз вярсту ў быўшым панскім фольварку, але мы будзем разам. Вы будзеце прыходзіць да нас, а мы да вас. Будзем разам працаваць. Так сказаў наш настаўнік Ленін.

— Ур-р-а!-Ур-р-а!—прагучэла над вёскаю

— Ур-р-а!—адгукнуўся лес...

— Таварышы!—стаў гаварыць другі піонэр,—мы організуем у вас піонэрскі атрад. Мы вам прывезьлі гальштукі, піонэрскія значкі, мы вас навучым пісаць насьценныя газэты, будзем дапамагаць вам працаваць у полі.

Ізноў узьнялося радаснае ура... ізноў адгукнуўся лес.

З песьнямі пашлі ў фольварак. Пяялі ўсе. Пяяў атрад. Пяялі і вясковыя дзеці.



## Піонэры.

Ой, ня лес зашумеў асавелы,
Ня дубняк малады грубіяніць,—
Гэта раць юных ленінцаў сьмела
Будзь гатоў! па-над лугам буяніць.
Распалілі агонь піонэры
На магіле струхнелага бору...
Колькі шчасьця, надзеі і веры
У грудзёх арлянятаў прастору!
І свабодная песьня наўкола
Пакацілася вольна дубровай.
Гэй! на зьмену байцу комсамолу!
Піонэр, будзь заўсёды гатоў!



## Алесь храбры.

Сяргей і Алесь пашлі ў лес па ягады. Дарогаю Сяргей пытаецца:

— Алесь, ты баішся ваўкоў?

Алесь хваліцца:

— Чаго-ж іх баяцца? Як дам палкаю па галаве—заб'ю.

Зашлі крыху ў лес. Алесь аглядваецца. Цёмна кругом, галінкі пад нагамі хрусьцяць і здаецца, што нехта хоча схапіць сваімі даўгімі рукамі. Сяргей пытаецца:

— Баішся?

А Алесь адказвае:

— Хіба-ж я дзяўчынка? Чаго-ж мне баяцца?

Сяргей узяў дый крыкнуў:

— Ваўкі!

Алесь аж прысеў з перапуду:

— Ма-а-ма!..

А Сяргей пасьля і сьмяецца:

— Эх ты, Алесь храбры!

---

Якія вы ведаеце ягады? Якія вы ведаеце грыбы?

**Прыказка:** З вялікага грому часам малы дождж бывае.

## Сто ваўкоў.

Апавядаў адзін хлапец:

— Як ішоў я ўчора праз лес, ось, браткі мае, страху было! Ледзь уцёк.

Пытаюцца яго:

— А што-ж там такое?

— Ды мусіць аж сто ваўкоў калі пагоняцца за мною!

— Ну!

— Чаго там—ну! Ужо калі ня сто, дык паўсотня была.

— Ды іх-жа ў лесе гэтулькі няма.

— Ось яшчэ і ня верыць. Я кажу, што пэўне з дзесятак гналася...

— Ды ты не мані!..

— Ну хіба-ж я маню? Я-ж кажу—як бег за мною воўк.

— Ды дзе-ж ты таго ваўка бачыў?

— Ну, праўду кажу: іду я, а ў хмызьняку нешта кратаецца.



## Мурашкі.

Прышоў чалавек у лес і ўбачыў там мурашнік. Поўзаюць ля яго мурашкі і кожная з іх мае сваю работу. Узяў чалавек камячок зямлі і накрыў ім адну мурашку.

Ня можа мурашка выпаўзьці з-пад камячка, відаць толькі, як шавеляцца яе вусікі.

Чакае чалавек, што далей будзе.

Вось адна мурашка ўбачыла, якая бяда здарылася з сястрой; падбегла, хоча памагчы ёй вылезьці, але нічога зрабіць ня можа. І пабегла некуды. Праз некалькі часу шмат мурашак прыпаўзло к камячку зямлі, згрудзіліся яны навокал і пачалі разьбіраць

па дробных кавалачках зямлю, пад каторай была мурашка. Борзьдзенька расьцягнулі яны ўсю зямлю і, як толькі паднялася на ногі мурашка, усе пабеглі ізноў да сваёй працы.

---

Разгледзьце мурашнік.

## Грыбы.

Дзьве дзяўчынкі йшлі дамоў з грыбамі.

Ім трэба было перайсьці цераз чыгунку. Яны думалі, што цягнік далёка, вылезьлі на насып і пашлі праз рэйкі.

Раптам загудзеў цягнік. Старэйшая дзяўчынка пабегла назад, а малодшая пабегла ўперад.

Старэйшая дзяўчынка закрычала:

— Ня йдзі назад!

Цягнік быў ужо блізка і вельмі шумеў. Малодшая дзяўчынка падумала, што сястра ёй гавора бегчы назад. Яна пабегла назад праз рэйкі, абступілася, рассыпала грыбы і пачала зьбіраць іх.

Цягнік быў зусім блізка і гудзеў, што было моцы.

Старэйшая дзяўчынка крычала: „Кінь грыбы!“ Малая думала, што сястра крычыць,

каб яна сабрала грыбы, і ўсё поўзала па дарозе.

Машыністы ня мог стрымаць цягніка і наехаў на дзяўчынку.

Старэйшая дзяўчынка крычала і плакала. Усе пасажыры глядзелі з вагонаў, а кондуктар пабег у канец цягніка, каб паглядзець, што зрабілася з дзяўчынкай.

Калі цягнік прашоў, усе ўбачылі, што дзяўчынка ляжыць паміж рэйкамі галавою ўніз і не варушыцца.

Потым, калі цягнік ад'ехаў далей, дзяўчынка падняла галаву, ускочыла на калені, сабрала грыбы і пабегла да сястры.





## Вясковыя дзеці.

Пусты ўлетку нашы сёлы,
Ўсе на полі за сярпом,
Толькі дзетак крык вясёлы
Льлецца ў вуліцах руччом.

Вецер кудры іх цалуе,
Мые дождж іх бледны твар,
З імі сонейка жартуе
І цяпло ім шле, як дар.

## У летні дзень.

— Цівік, цівік!—закрычала ластаўка і за ёю ўсе птушкі пачалі варушыцца і брацца за работу—хто гнязьдзечка кончыць, хто

дзетак карміць. Зашастаў цяжкім крыльлем бусел і спусьціўся на балота.

— Плюсь, плюсь, плюсь!—адна за аднэй жабы ў ваду; а крыху памаўчаўшы, ізноў пачалі выводзіць свае сьпевы, быццам дражнячы бусла, што яны яго не баяцца.

Усход усё чырванее і чырванее і паказваецца ўрэшце сонейка. Усё заварушылася, усе ўзяліся за працу.



— Цс-сык, цс-сык, цс-сык!—зьвіняць косы. Чалавек дваццаць касцоў з ахвотаю касілі густую зялёную траву. Шнур іх расьцягнуўся, і кожны, сьпяшаючыся, памаленьку ішоў наўперад. Сонейка паднялося ўжо вы-

шэй, зрабілася меншым. На балоце відаць былі толькі радочкі скошанай травы.

Прышлі дзяўчаты з граблямі варушыць падсохлую траву і разам запяялі песьню. І палілася яна чыстая, працяжная, як рака.





## За касой.

Кожны раз, як жывой муравой-дыванам  
Лета высьцеле луг, сенажаць,  
Косы сьвішчуць, зьвіняць над ракой за сялом,  
За касой касцоў песьні чуваць.  
Ясна косы блішчаць у цьвітучай pacc,  
Высьцілаюць пракос у пракос;  
Песьні з ветрам шумяць, пушча водкліч нясе,  
Пушча слухае песень і кос.

---

Што рабіць, каб сена ня згніло?

# Маленькі работнік.

— Як-жа ты, Алесь, навучыўся граблі папраўляць?

— А вось як. Зламаў я на сенажаці зуб у граблях. Бацька і гавора мне:

— Ідзі, Алесь, адшчапі ад сухога бярозавага палена лучыну патаўсьцей, абрэж яе, абстругай кругла. А потым асьцярожненька ўбі новы зуб у граблі, заклінуй, абрэж лішку, завастры і граблі гатовы.

— Я так і зрабіў. А цяперака ўдава-суседка просіць:

— Зрабі ў мае граблі два зубы.

— Вось я і раблю.

---

Ці ўмееце вы папраўляць граблі?

Калі ня ўмееце—навучэцеся.

# Васількі і каласы.

У ціхі летні вечар пашлі дзеці з маткаю ў поле. Дарога йшла паміж дзьвюмя сьцянамі высокага жыта.



— Чаму гэта, мама,—папыталася дзяўчынка,—тут жыта такое нядобрае: адны каласы, а васількоў дык зусім няма.

— Бачыш, мая дачушка,— адказвае маці,—дзеля таго ратай гэтак цяжка працуе, каб каласы добра ўрадзіліся; а каб васількі вырасьлі, дык і працаваць ня трэба: самі растуць, але карысьці ад іх ніякай няма. Яшчэ калі іх многа вырасьце ў жыце, дык яны толькі перашкаджаюць расьці збожжу.

## Заданьне.

Зрабеце збор узораў зельля, якое расьце ў жыце: зьбярэце васількі, сурэпку, лебяду і іншае зельле, засушэце. Засушэце і жытні колас. Усё гэта нашыйце на паперу і падпішэце назвы пад кожнаю расьлінаю, лік месяца і дзень, калі зельле сабралі.



# Жняя.

Ніва сьпелая жаўцее,
Сонца летняе пячэ,—
Жне сваю палоску жнея,
Пот цурком з яе цячэ.
Аж чуваць, як каласамі
Ніва весела шуміць
І высокімі снапамі
Хоча поле ўсё закрыць.
Завіхайся добра, жнея,—
Трэба ўсё сягоньня зжаць.
Заўтра-ж пойдзем да Мацея
Ўсёю вёскай памагаць.

# VII. КАНЕЦ ГОДУ.

## Чаго я навучыўся за год.

Я навучыўся мыць рукі, твар, шыю і вушы. Я ведаю, што чыстата захоўвае чалавека ад заразы.

Я навучыўся пісаць сам. Магу сам запісаць пра сваю працу. Чытаю я ня вельмі добра, але невялічкі артыкул прачытаю і разумею, пра што я чытаў. Калі я прышоў у школу, я ня ведаў ніводнай літары. Я вельмі люблю разьвязваць задачы. Магу лічыць ужо да 100. Я зрабіў вясною шпакоўніцу. Дома я пасадзіў цыбулю і свае назіраньні запісваю ў дзеньнік. Я яшчэ люблю рысаваць і вырэзваць розных жывёл, птушак і чалавечкаў. Летам я ня кіну сваіх заняткаў. Буду назіраць па пляну, які мы ўсе разам зләжылі. Буду чытаць і рысаваць.

### Заданьні:

1. Зрабеце выстаўку вашых работ і па іх прасачэце, чаго вы навучыліся за год.

2. Напішэце, чаго вы навучыліся за год.

# Што рабіць улетку.

## Пагода.

Назірай і запісвай кожны дзень, якая была пагода.

## У полі.

1. Якую збажыну пачалі жаць першую? Калі пачалі жаць?
2. Як у вас жнуць жыта? Ярыну?
3. Як складаюць жыта на полі?
4. Калі пачалі гатовіць поле пад жыта?
5. Калі сеялі жыта?
6. Калі пачалі капаць бульбу?

Зьбярэце збор узораў усіх збожавых расьлін, напішэце пад кожнай назву і лік, калі пачалі яе жаць.

## На сенажаці.

1. Калі пачалі касіць?
2. Калі зьвязьлі сена з сенажаці?

## У садзе.

Запісвайце, калі пасьпелі яблыні, ігрушы, вішні, сьлівы і г. д.

## У гародзе.

Запісвайце, калі пасьпела якая гародніна?

## Над птушкамі.

1. Назірайце, як птушкі сядзяць на яйках, як кормяць сваіх дзяцей, калі маладыя птушкі пачынаюць лётаць.

2. Калі перастала кукаваць зязюля?

3. Калі перастаў пець салавейка?

4. Якія птушкі выбіраюцца ў вырай?

## Праца сям'і.

1. Як рыхтавалася ваша сям'я да жніва? да касьбы?

2. Хто ў вас жаў? касіў?

3. А што ты рабіў?

4. Ці была ў вас агульная праца ўсёй вёскаю? Ці дапамагалі каму ўсе?

Па пісаньні табе многа працы. Не забывайся і пра кніжку. Чытай хаця адну гадзіну ў тыдзень.

# Грай нам, грайка.

Зручна, гучна грай нам, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.
Селі макам усе тыя,

Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў
Аблівалі тут.
Барын веку дажывае,
Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
Гонар панскі свой.
А мы самі, сабе самі
Ўжо гаспадары
Малатамі і сярпамі
Звонім да зары.
Грай-жа, грай нам гулка, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Ня сьвісьціць ужо нагайка,
Ня гудзіць бізун.



# ЗЬМЕСТ.

## IV. Вясна.

## VI. Лета.

## VII. Канец году.



---

# КНІГАСЬПІС.

## Падручнікі.

| | |
|---|---|
| **Азбукін М.** „Географія Эўропы“. З малюнкамі і картай у хварбах . . . . . . . | 2 р. 50 к. |
| Беларуская разразная азбука . . . . | — 5 „ |
| „Выпісы з беларускае літаратуры“ ч. II. Новый найноўшы кругабегі . . . . . . | 1 р. 25 „ |
| **Гарэцкі М.** „Гісторыя беларускае літаратуры“. З малюнк. Выд. 3-е. . . . . . . . | 2 р. — |
| **Грамыка М.** „Пачатковая географія“. З малюнкамі | — 45 к. |
| **Кісялёў А.** „Элемэнтарная альгебра“ ч. II . . | 1 р. — |
| **Кашын Н.** „Фізыка“ ч. I. З малюнкамі . . | 1 р. 50 к. |
| „ „ ч. II „ . . . | 1 р. 70 к. |
| **Круталевіч А.** „Альгебра“ ч. I. . . . | — 60 к. |
| „ „ ч. II. . . . | 1 р. 50 к. |
| **Лёсік Язэп.** „Беларускі правапіс“. Выд. 2-е . | — 50 к. |
| „ „Пачатковая граматыка“. Выд. 2-е . | — 30 к. |
| „ „Сынтакс беларускае мовы“ . . | 1 р. — |
| **Лойка М.** „Першыя крокі ў матэматыцы“ ч. I-я. З малюнкамі . . . . . . . . . | — 30 к. |
| **Лукашэвіч і Валасковіч.** „Мэтодыка арытмэтыкі“. | — 60 к. |
| **Мікэльсар.** „Пачатковая геомэтрыя“. З малюнкамі. | — 50 к. |
| Мэтрычная сыстэма мерак у параўнаньні з расійскімі меркамі . . . . . . . | — 15 к. |
| **Некрашэвіч С.** „Беларускі лемантар“. Выд. II. З мал. | — 20 к. |
| „ „Родн. слова“ ч. I. Выд. II. З мал. | — 35 к. |
| „ „Роднае слова“. Другая пасьля лемантара кніга для чытаньня. Выд. 4-е . . . | — 40 к. |
| **Пічэта** Ў. Проф. „Гісторыя Беларусі ад старадаўных часоў да Люблінскай вуніі“ . . . . | — 90 к. |
| **Самковіч і Пратасевіч.** „Родныя шляхі“. Літаратурныя выпісы для V і VI кляс сямёхгодкі. З малюнк. | 2 р. — |
| **Траяноўскі.** „Курс прыродазнаўства“ ч. I. Паветра, вада і зямля . . . . . . . . | — 50 к. |
| **Федасенка**, Лемантар—„Чырвоная Зьмена“. З мал. | — 25 к. |
| **Лойка.** „Першыя крокі ў матэматыцы“ ч. II. З мал. | — 45 к. |

## Падручнікі, якія выйдуць з друку.

**Чаржынскі, Гарэцкі і Любецкі.** „Літаратурныя выпісы“ ч. I.

**Мазур і Шапялевіч.** „Чырвоная Беларусь“. Чытанка для 3-га году навучаньня.

**Самковіч, Гарбацэвіч і Пратасевіч.** „Чырвоны Сьцяг". Чытанка для 4-га году навучаньня.

**Любімаў.** „Політэкономія".

**Ігнатоўскі.** „Кароткі нарыс гісторыя Беларусі".

**Пакроўскі.** „Нарысы з гісторыі рэвруху ў Расіі XIX і XX в.в."

**Вэнэдыктаў.** „Гісторыя міжнароднага рабочага руху".

**Смоліч.** „Географія Беларусі. З малюнкамі".

**Азбукін і Смоліч.** „Географія па-заэўропэйскіх краін". З малюнкамі.

**Астраб.** „Практычная геомэтрыя".

**Траяноўскі.** „Прыродазнаўства" ч. II. Расьліны.

„ „ ч. III. Чалавек і жывёлы.

**Цьвікевіч.** „Анатомія, фізыолёгія і гігіена чалавечага цела".

**Лойка.** „Першыя крокі ў матэматыцы" ч. III.

**Круталевіч, Сагаловіч, Лойка.** „Падручнік агульнай матэматыкі" ў 3-х частках.

**Шыпіла і Каган.** „Хрэстоматыя па гісторыі рэвруху на Беларусі".

**Проф. Аляксандраў.** „ па грамадзяназнаўству.

**Кержанцаў.** „Старонкі з гісторыі РКП".

„ „Ленінізм".

**Проф. Доўнар-Запольскі.** „Гісторыя Беларусі" (для тэхнікумаў і выш. школ).

**Слуцкі і Фрыдлянд.** „Хрэстоматыя па рэвруху ў Заходняй Эўропе".

**Мазур і Калінічэнка.** „Чырвоная Зьмена". Кн. II для чытаньня пасьля лемантара.

**Краскоўскі.** „Пачатковы курс гісторыі Беларусі".

**Нэкрашэвіч М.** „Жыцьцё і праца". Літаратурная хрэстоматыя для профтэхшкол.

## Прыгожае пісьменства.

**Багушэвіч Ф.** „Дудка беларуская". „Смык беларускі". Збор вершаваных твораў у аднэй кнізе . . — 30 к.

**Бядуля Зьмітрок.** „Буралом". Збор вершаў . . — 60 к.

„ „На зачарованых гонях". Апавяданьні . . . . . . . . . . . — 40 к.

**Гартны Цішка.** „Песьні працы і змаганьня". Збор вершаў . . . . . . . . . . . — 75 к.

**Гартны Цішка.** „Сокі цаліны". Роман ч. I . . 1 р. —

„ „Трэскі на хвалях". Збор апавяданьняў . . . . . . . . . . . 1 р. 50 к.

**Гурло А.** „Барвенак". Збор вершаў . . . 1 р. —

**Гушча Тарас** (*Я. Колас*). „Першыя крокі". Збор апавяданьняў для дзяцей . . . . . . . — 40 к.

**Гушча Тарас** (*Я. Колас*). „На рубяжы". Збор апавяданьняў.

**Гушча Тарас** (*Я. Колас*). „У Палескай глушы“. Повесьць . . . . . . . . . . 1 р. —
**Дубоўка Уладзімер.** „Строма“. Вершы . . — 20 к.
**Журба Я.** „Заранкі“. Збор вершаў . . . — 50 к.
**Зарэцкі М.** „У віры жыцьця“. Збор апавяданьняў. 1 р. 50 к.
**Колас Якуб.** „Водгульле“. Збор вершаў . . — 35 к.
„ „Новая зямля“. Поэма . . . 1 р. 50 к.
**Купала Янка.** „Безназоўнае“. Збор вершаў . . 1 р. —
„ „Збор твораў“. Т. I. „Жалейка“ і „Гусьляр“ з портрэтам, жыцьцёпісамі і крытычнымі нарысамі . . . . . . . . . . 2 р. —
**Купала Янка** „Спадчына“. Збор вершаў . . 1 р. —
„ „Шляхам жыцьця“. Збор вершаў . . 1 р. 25 к.
**Чарот М.** „Веснаход“. Збор апавяданьняў . . 1 р. 10 к.
„Чырвоны Дудар“. Беларускі дэкляматар. Злажылі **Я. Купала і Цішка Гартны** . . . . . 2 р. —
**Ядвігін Ш.** „Бярозка“. Апавяданьні . . . — 20 к.
**Ясакар** (*Бядуля*). „Пад родным небам“. Збор. вершаў . . . . . . . . . . . — 65 к.
**Чарот.** „Босыя на вогнішчы“. 4-ае выданьне . — 10 к.
**Я. Колас.** „Сымон Музыка“. Поэма . . . 2 р. —
**Гартны Цішка.** „Урачыстасьць“. Збор вершаў . — 60 к.
**Дубоўка.** „Трысьцё“. Збор вершаў . . . — 40 к.

## Рыхтуюцца да друку.

**Неманскі.** Апавяданьні (друкуецца).
**Ажгірэй.** „Беларуская Комсамолія“.
**Чарот.** „Сьвінапас“.
**Якімовіч.** Збор вершаў.
**Чарнушэвіч.** „Жытнёвыя ўсьмешкі“.
**Бядуля.** „На раздарожжы“. Збор апавяданьняў.
**Дубок.** Апавяданьні.
**Дудар.** „Зборнік апавяданьняў“.
**Александровіч.** Зборнік апавяданьняў.
**Крапіва.** „Крапіва“. Збор вершаў (друкуецца).
**Цішка Гартны.** „Сокі цаліны“. II ч.
**Янка Купала.** Поўны збор твораў, т. II. „Шляхам жыцьця“
**М. Гарэцкі.** Апавяданьні.

## Ленінская, партыйна-палітычная і профэсыянальная літаратура.

**Ленін.** „Якім павінен быць комсамолец“. . . 5 к.
„ „Аб рэлігіі“ . . . . . . . 5 к.
„ „Аб коопэрацыі“. . . . . . . 20 к.
„ „Дзіцячая хвароба лявізны.“ . . . .

**Крупская.** „Пра Ўладзімера Ільліча“ . . . . . 2 к.
Мысьлі **Ў. І. Леніна.** „Аб экономічнай політыцы“ . 5 к.
„ „Соцыяльная рэволюцыя і заданьні асьветы“ . . . , . . . . . . 20 к.
**Сталін.** „Аб Леніне і ленінізьме“.

## Рыхтуецца да друку.

**Кузьняцоў.** „Ленін і сялянства“.
**Яраслаўскі.** „Жыцьцё і чыннасьць Леніна“.
**Ленін.** „Аб харчовым падатку“.
**Ліліна.** „Наш настаўнік Ленін“.
**Ленін.** „Дзяржава і рэволюцыя“.
„ „Новая экономічная політыка“.
**Папоў.** „Ленін і нацыянальнае пытаньне“.
**Ленін.** „Тактыка бальшавізму“.
„ „Крок наперад, два крокі назад“.

---

**Лазоўскі.** „Асноўныя моманты ў разьвіцьці міжнароднага профэсыянальнага руху“ . . . . . . 10 к.
**Томскі.** „Нарысы профэсыянальнага руху ў Расіі“ .
„ „Профсаюзы на новых шляхох“ . . . 25 к.
**Чэкін** (Яроцкі). „Што такое профсаюз“ . . . 15 к.
„Рэзолюцыі XIV ўсесаюзнай конфэрэнцыі РКП“ . . 20 к.
Зборнік „Заходняя Беларусь“ . . . . . . 50 к.
„Програма і статут РКП“ (друкуецца).
**Томскі.** „Прынцыпы організацыйнага будаўніцтва профсаюзаў“ (друкуецца).
**Маркс і Энгэльс.** „Комуністычны маніфэст“ . . 50 к.
„Нацыянальнае пытаньне і Комуністычныя партыя“ . 50 к.

## Тэатр і музыка.

**Маркевіч Л.** Жалобны марш на сьмерць У. Леніна. Для фортэп'яна . . . . . . . . 20 к.
**Равінскі М.** Зборнік песень з нотамі . . . 40 к.
**Родзевіч Л.** „Пакрыўджаныя“. Драма ў 4-х дзеях . 15 к.
Сцэнічныя творы. Сшытак першы. („Паўлінка“—Я. Купалы. „Манька“—Ф. Аляхновіча. „Залёты“—В. Д. Марцінкевіча. „Пашыліся ў дурні“—М. Крапіўніцкага) . . . 25 к.
Сцэнічныя творы. Кніжка першая. („Прымакі“—Я. Купалы. „Мікітаў лапаць“—М. Кудзелькі. „Зьбянтэжаны Саўка“, „Пасланец“, „Конскі партрэт“—Л. Родзевіча) . . . 40 к.
Сцэнічныя творы. Кніжка другая. („Соцыялістка“—Ц. Гартнага. „Сон на балоце“—М. Кудзелькі. „Калісь“, „Лес шуміць“—Ф. Аляхновіча). . . . . . . . 70 к.
**Тэраўскі Ў.** Беларускі лірнік. Сьпеўнік на чатары галасы. 99 песень . . . . . . . . . 75 к.

Прохараў. Романс. „У мгле“. Словы Я. Купалы . . 30 к.
Аладаў. Романс „Бяспутнасьць“. Словы Я. Купалы . 40 к.
„ „ „Сасонка“. Словы Янкі Купалы . . 20 к.
„ „ „Лісты валяцца“. Словы Янкі Купалы.
Юрын. „Савецкі чорт“. П'еса (друкуецца).
Муйжаль. „Жаніх з Піцера“ (друкуецца).
Івушка-Калінушка. „Непаслухмяныя“ (друкуецца).

## „Сялянская бібліотэка“.

І. Сьцяпанаў. „Чыя вера правіловая і які бог праўдзівы“ 5 к.
Агр. Кацаураў. „Конь“ (Гутарка аб тым, як купляць і гадаваць коняй) . . . . . . . . . 26 к.
Д-р Цьвікевіч. „Парады цяжарным“ . . . . 8 к.
І. Сьцяпанаў. „Аб таінстве сьвятога прычасьця“. . 10 к.
Дыкштэйн. „Хто чым жыве“ . . . . . 15 к.
Ул. Львоў. „Соль і яе здабываньне“. З малюнкамі . 15 к.
Агр. Кацаураў. „Быдла“ (Гутарка аб тым, як гадаваць быдла) . . . . . . . . . . 15 к.
„ „Аб насеньні“ . . . . . 15 к.
„ „Аб плодазьмене“ . . . . 6 к.
„ „Дагляд за пасевамі“ . . . 8 к.
Ю. Вагнэр. „Апавяданьні аб вадзе“. З малюнкамі . 25 к.
Агр. Кацаураў. „Як жыве й прарастае насеньне“ . 10 к.
Д-р Цьвікевіч. „Гадаваньне грудных дзяцей“ . . 10 к.
Агр. Кацаураў. „Жыта і пшаніца“ . . . . 10 к.
Сымон Рак. „Страшны вораг“ . . . . . 12 к.
Д-р Былінскі. „Як ратавацца ад заразы“ . . . 5 к.
Д-р Фурс. „Сухоты і змаганьне з імі“ . . . 5 к.
Б. Сілін. „Такарнае рамяство па дзераве“. З малюнкамі. 25 к.
І. Шыпіла. „Што кожны селянін павінен ведаць аб кооперацыі“ . . . . . . . . . . 12 к.
Проф. П. Н. Штэйнбэрг. „Чым і як угнойваць гарод, калі гною і мінэральных тукаў не хапае“ . . . . 8 к.
Агр. Кацаураў. „Ячмень, авёс, проса, грэчка, кукуруза“. 20 к.
„ „Бульба і караньплоды“ . . . 10 к.
В. Фэрдынандаў. „Як атрымаць даход ад птушніцтва“. З малюнкамі . . . . . . . . . 12 к
Зайцаў. „Важная пастанова партыі“ . . . . 10 к.
Былінскі. „Гутаркі пра жаночыя хваробы“ . . . 12 к.
Я. Пэрэльман. „Новыя й старыя меркі“ . . . 8 к.
В. Лункевіч. „Грозныя зьявы і цуды прыроды“. З мал. 12 к.
Д-р С. Былінскі. „Трахома і сьлепата“ . . . 5 к.
Агр. Кацаураў. „Угнаеньне глебы“ . . . . 8 к.
В. Лункевіч. „Неба і зоры“. З малюнкамі . . . 10 к.
Вэтэрынар. І Серада. „Сьвіньня—скарбніца гаспадара“ З малюнкамі . . . . . . . . . . 10 к.

1964

**Вэтэрынар І. Серада.** „Заразьлівыя хваробы свойскае жывёлы“. З малюнкамі . . . . . . . . . 15 к.

**Дзяркач.** „Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў“. 20 к.

**Я. Грабоўскі.** „Аб насеньні. Як і чым палепшыць насеньне“ . . . . . . . . . . . 8 к.

**Д-р І. Цьвікевіч.** Як усьцерагчыся ад сыфілісу. З малюнкамі . . . . . . . . . . 10 к.

**Бараноўскі.** „Як трэба будавацца, каб пажару не баяцца“. З малюнкамі.

**Гарабурда.** Як стварыўся сьвет (друкуецца).

**Івушка-Калінушка.** Непаслухмяныя (п'еса—друкуецца).

**Муйжаль.** Жаніх з Піцера (п'еса—друкуецца).

**Юрын.** „Савецкі чорт“ (п'еса—друкуецца).

**Сілін і Захараў.** Як кашалі плесьці (друкуецца).

---

Выд. аддзел 1924 г.

# ЧАСОПІСІ.

**„ПОЛЫМЯ“ за 1922 г. № 1** (ц. 30 к.).
„ „ **1923 г. № 2** (ц. 50 к.), **№ 3-4** (ц. 50 к.), **№ 5-6** (ц. 1 р.), **№ 7-8** (ц. 1 р.).
„ „ **1924 г. №№ 1 (9)—2 (10) і 3 (11) і 4 (12)** па 1 р.
„ „ **1925 г. № 1-5** па 1 р. 50 к.

**„МАЛАДНЯК“ за 1923 г. № 1** (ц. 75 к.).
„ „ **1924 г. № 2-3** (ц. 1 р.), **№ 4** (ц. 80 к.), **№ 5** (ц. 1 р. 50 к.).
„ „ **1925 г. № 6** (ц. 1 р. 50 к.), **№ 7** (ц. 75 к.) **і № 8** (ц. 75 к.).

**Усе вышэй зьмешчаныя кнігі прадаюцца ў усіх кнігарнях г. Менску і кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва ў акруговых і раённых гарадох Беларусі.**

**Таксама можна выпісваць кнігі па пошце на адрас: Менск, Савецкая, 63, Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

**Кнігасьпісы высылаюцца бясплатна па першым запатрабаваньні.**

---

5135

